# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

## Часопісь беларускага студэнства.



№ 1 (8). СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ ГОД IV.



Вільня, 1928 г.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны.
— Вільня, Людвісарская вуліца № 1. —

# ЗЬМЕСТ

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка-навуковая і літэратурная
часопісь Беларускага Студэнства.

Адрас рэдакцыі:
Вільня, сьв. Анны 2.

Падпіска квартальна з перасылкай 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . . 1 зл

№ 1 (8) | 1928. СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ. 1928. | ГОД IV.




## *БАЦЬКАЎШЧЫНЕ.*

*Для Цябе збудаваў я аўтар ў сваім сэрцы,*
*У вопратку казак прыбраў я яго,*
*Для цябе, што стагнала ў чужой паняверцы,*
*Што зьнявагі цярпела й ад сына свайго.*

*Прад вяліччам Тваім я сьхіліўся ў пакоры,*
*Прад вяліччам Тваім, прад цярпеньнем Тваім,*
*І душа бунтавала, як хвалі на моры,*
*Дый сьпявала ўскрашэньню Твайму, Маці, гымн.*

*Даражэйшае шчасьце Тваё мне за волю,*
*За ўсялякія скарбы зямлі, за жыцьцё,*
*Бо і што-ж мне жыцьцё ў параўнаньні з Табою,*
*Ты ўладар майго сэрца, маё багацьцё.*

*І я вырву бунтарнае сэрца ў ахвяру*
*Дый злажу я яго на Твой слаўны аўтар.*
*Потым вып'ю спакойна прызначаньня чару.*
*Дык прыймі маё сэрца, вазьмі яго ў дар!*

*А. Бартуль.*

**Вільня, 1928 г.**

*Вільня, 1928.*

Пачынаем 4-ты год выдавецтва «Студэнскай Думкі». За папярэднія 3 гады, выдавецтва «Ст Д.» было вельмі ўбогае. Яскравым доказам гэтага ёсьць выданьне ў сьвет толькі 7 нумароў гэтай часопісі. Убогасьць матэрыяльная беларускага студэнства, а такжа брак ахвярнасьці з боку беларускага грамадзянства не дазвалялі тады акуратна, пэрыядычна выдаваць студэнскае моладзі свайго месячніка – органу. З вышэй паданых прычынаў было на'т спынена выдавецтва «Ст. Думкі» ў 1927 г. Сяньня ведзеная студэнтамі інтэнсыўна акцыя зьбіраньня ахвяр сярод беларускага грамадзянства на выдавецкі фонд «Ст. Д» дала даволі памысныя рэзультаты. Сабраныя грошы ўжо дазваляюць нам выдаць гэты нумар. Надзея-ж на тое, што беларускія культурна-прасьветныя і іншыя ўстановы і арганізацыі, а такжа агулам беларускае грамадзянства — дапамогуць матэрыяльна нашаму выдавецтву, узноў-жа акцыя самых студэнтаў у кірунку вынаходу матэрыяльных сродкаў на гэтае выдавецта, нпр. ладжаньне і арганізаваньне спэктакляў, лекцыяў і інш., даход з чаго пашоў-бы на мэты выдавецтва, — ёсьць быццам гварантцыяй акуратнейшага выдаваньня «Ст. Д.» на далейшы час.

Аб патрэбе сваей часопісі для беларускага студэнства няма чаго й гаварыць.

Беларускае студэнства — дзеці вякамі пакрыўджанага Народу — не пакідае думкі аб працы для гэтага Народу, думкі аб складаньні для Яго дані. Само-ж знаходзячыся ў цяжкіх абставінах жыцьцёвых — студыюючы на розных вучэльнях — сярэдніх і вышэйшых — можа гэтую дань зложыць часткова праз сваю часопісь—нясеньнем пажывы духовай.

У сучасны мамэнт, калі адраджэньне беларускага народу прыняло формы хвараблівыя, калі ў беларускай атмасфэры паўстаў чад ненавісьці і ўзаемнае сваркі, калі розныя «свае» і чужацкія «дабрадзеі» бязкарна спэкулююць беларускім імем гатуючы нашаму Народу згубу — студэнства і агулам моладзь беларуская мусіць быць сьвядомае свайго пасланьніцтва, мусіць быць сьвядомае ролі, якую адыграць наказуе любоў свайго Народу і абавязак перад Бацькаўшчынай, асабліва—падкрэсьліваем— у сяньняшні дзень, калі Адраджэньне Народу Беларускага ідзе крывымі шляхамі.

Роля ў сяньняшні мамэнт беларускага студэнства вялікая і адказная. Ролю гэту можа часткова адыграць праз сваю часопісь, друкуючы ў ей артыкулы і працы навуковага, грамадзкага, літэратурна-мастацкага і іншага зьместу, падаючы збаўленныя думкі-лекі на сучасныя хваробы беларускага грамадзянства.

Гаворачы аб ролі бел. студэнства, трэба зазначыць, што яна вынікае ня толькі з патрыятычнага абавязку, але й з абавязку агульна чалавецкага, якім ёсьць — як кажа польскі волат духа з эпохі романтызму—«узаемнае удзяляньне сябе»; для беларускага-ж студэнства гэта знача, што яно абавязана дзяліцца з Народам скарбамі набытай веды і навукі, дзяліцца багацьцем сваей душы і сэрца, дзяліцца з Народам сваімі думкамі і шляхотнымі пачуцьцямі, а праз гэта самае беларускае студэнства сплаціць у пэўнай меры дань для свайго Народу, узбагаціць скарбніцу культуры беларускае і памагчымасьці правядзе санацыю ў адносінах беларускага грамадзянства.

Гэтыя абавязкі і роля бел. моладзі ў адносінах да свайго Народу будуць выкананы праз часопісь, пэўне-ж часткова, тады, калі беларускае сьвядомае грамадзянства зразумее і ацэніць гэтыя імкненьні моладзі і дапаможа матэрыяльна ў нашай выдавецкай працы.

*Рэдакцыя.*

## *Ўпярод!*

*Сьмялей, ўпярод праз гора і цярпеньня,*
*Сьмялей—са сьветачам надзеі*
*Для шчасьця будучага пакаленьня,*
*Для зьдзейсьненьня сьвятой Ідэі.*
*Сьмялей, браты, няхай злуецца бура,*
*Хай пяруны ў бязсільнай злосьці*
*Грымяць, і хай віхор пяе панура!*
*Сьмялей! Ці-ж нас стрымае хтосьці?*
*Сьмялей! Замоўкне хутка буры песьня,*
*Ўжо сонца лепшых дзён ўзыходзе*
*І шчасьце разцьвіце красой прадвесьня;*
*Ўпярод!—сьмялее мой Народ!*

*А. Бартуль.*

*Др. ТАМАШ ГРЫБ.*

# Да пытаньня аб навуковым досьледзе і вывучаньні Беларусі.

Мусімо шчыра й адкрыта прызнацца: мы, Беларусы, ня ведаем сябе, свой Родны Край, мы ня ведаем свайго народу, бо ня ведаем яго навукова, а калі дзе - што і ведаем, то ўсё наша веданьне ёсьць вельмі й вельмі абмежанае, нязначнае, навукова неўпарадкаванае, неўсыстэматызаванае.

І ўзапраўды: што мы ведаем аб Беларусі, як далёка, шырока й глыбока сягае нашае веданьне ў галіне этнаграфіі, антропо і соцыяграфіі Беларусі, у галіне гісторыі беларускага народу, яго культуры і гаспадаркі, у галіне нацыянальна - сацыяльнай структуры насельніцтва Беларусі, аб узаемаадносінах розных нацыянальна-сацыяльных угрупаваньняў і агрэгатаў, як напрыклад места і вёскі на Беларусі, аб іх значаньні і ролі ў гістарычнай мінуўшчыне ды ў цяперашчыне?

Ёсьць сабрана дзе - колькі, фактаў і датаў, пададзена іх агульная характарыстыка ў працах Насовіча, Шэйна, Раманава, Нікіфароўскага Фэдароўскага, Сержпутоўскага, Турчыновіча, Даўнар - Запольскага, Любаўскага, Лаппо, Пічэты, Ігнатоўскага, Карскага, Шлюбскага, Растаргуева, Ляцкага, Ластоўскага, Луцкевіча, Гарэцкага, Янчука, Лёсіка, Мялешкі, Даўгяло, Тарашкевіча, Смоліча, Азбукіна, Некрашэвіча, Уласава, Канчара, Турука, Езавітава, Цьвікевіча, Дварчаніна, Станкевіча ды інш. Але, уважліва разглядаючы ўсе працы гэных дасьледчыкаў, няўхільна прыходзімо да сумнага выснаўку: як-жа мала мы ведаем нашу Бацькаўшчыну Беларусь, як мала ведаем наш беларускі народ у яго мінуўшчыне і ў сяньняшнім становішчы. Проста жах бярэ!

Што мы ведаем, напрыклад, аб прыродных багацьцях Беларусі, аб прамысловасьці, хатнім і фабрычна-заводзкім вырабе, аб колькасьці і якасьці сельска-гаспадарскай прадукцыі, яе збыце, аб вырабе і спажываньні, аб экспарце ды імпарце Беларусі, колькі і якіх тавараў вывозіцца з Беларусі, ды колькі і якіх прывозіцца, які істнуе таваразабмен унутры Беларусі ды інш.? Як гэта адбывалася раней і як цяпер? Што ўплывала, якія прычыны былі ўздойму і заняпаду беларускай прамысловасьці і ўсей беларускай народнай гаспадаркі?

А з боку праўнага: ці мы ведаем наша беларускае права, права радзімае, бытавое, дзяржаўнае? Дасьледжаны і вывучаны кім-небудзь Літоўскі Статут, гэты найвялікшы вытвар беларускага духу? А ці можамо пахваліцца мы сваім веданьнем тых праўных нормаў, якімі фактычна рэгулюецца культурна - гаспадарскае і палітычнае жыцьцё беларускага народу пад рожнымі ўладамі ў цяперашчыне?

Гэтак і з боку гістарычнага: ці мы ведаем што-небудзь аб беларускім гуманізьме і аб беларускай рэфармацыі? Калі ўжо ёсьць што-небудзь напісана і выдадзена ў друку аб найвялікшым беларускім гуманісту Францішку Скарыне, то што мы ведаем аб жыцьці, дзейнасьці і навучаньні найвялікшага беларускага рэлігійнага рэфарматара—Сымоне Будным?

А ці дасьледжана кім-небудзь, ці вывучана гісторыя каталіцкага касьцёлу і праваслаўнае царквы на Беларусі, іх значэньне і роля ў культурна-грамадзкім жыцьці беларускага народу? Гэтак сама і пытаньне аб вуніі?

А хіба ёсьць напісана кім-небудзь гісторыя беларускага мяшчанства, шляхты, духавенства, гісторыя рамесьніцтва, сялянства і работніцтва? Маем гісторыю, ці хоць адну гістарычную манаграфію аб беларускіх местах і мястэчках, аб іх узаемаадношаньні ды ўзаемаадношаньні іх з вёскай? Маем гісторыю царквоў і касьцёлаў, манастыроў і кляштараў, мячэцяў і сынагогаў, аб іх узаемаадношаньні і ўзаемаадношаньні іх з местам і вёскай? Маем гісторыю панскіх двароў і фальваркаў у іх узаемаадношаньні з вёскай і местам? Маем гісторыю зямельных адносін на Беларусі? Як і чаму загінула беларуская шляхта—мы гэта ведаем, маем навуковыя досьледы? З якога часу зьявіліся на Беларусі польскія і расейскія абшарнікі, жыдоўскія гандляры, ды ў які спосаб яны захапілі ў свае рукі ўсе кіраўнічыя функцыі гаспадарскага, культурнага і палітычнага жыцьця, абярнуўшы беларускі народ у простых плябэяў, працоўную беднату?

Аж па сяньняшні дзень мы ня маемо навуковага досьледу гісторыі беларускай гаспадаркі і культуры, ня маемо досьледу аб сацыяльна-нацыянальнай структуры Беларусі, аб значэньні, ролі і ўзаемаадношаньні розных угрупаваньняў і агрэгатаў!

Мы ня маем нават яшчэ навукова апрацаванай гісторыі беларускай літэратуры, ня маем гістарычнае граматыкі беларускае мовы з усімі асаблівасьцямі мяйсцовых гаворак.

А што мы ведаем аб пачынальніках беларускага вызвальна-адраджэнскага руху? Што кажуць нам, нашаму сэрцу і розуму, імёны: Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч і шмат іншых, ранейшых і пазьнейшых будзіцеляў і адраджэнцаў беларускага народу? Што мы ведаем аб іх жыцьці і дзейнасьці? Ці напісана хоць аб адным з іх манаграфія, ці нават хацяж-бы кароткі літэратурна-гістарычны нарыс? — Не, мы гэтага яшчэ ня маем. Нават больш таго: мы ў шэрагу прыпадкаў ня ведаем, дзе й калі яны памёрлі, аддаўшы ўсе свае сілы вызвальна-адражэнскай справе беларускага народу, ня ведаем дзе пахаваны, каб захацелі ўшанаваць іх магілкі...

Дый што казаць! Што мы ведаем аб сучасным беларускім вызвальна-адраджэнскім руху, аб яго аснаўных падвалінах — культурных, гаспадарскіх, палітычных, а так сама праўных, этычных?

Узьнікае шэраг іншых запытаньняў, якія вымагаюць ад кожнага сьвядомага Беларуса, ад кожнага інтэлігэнта-адраджэнца — выразных і акрэсьляных адказаў. І нельга ўхіляцца ад іх пастаноўкі. Само жыцьцё іх рубам ставіць і вымагае належных адказаў. Тым больш нельга ўхіляцца ад пастаноўкі і вырашэньня ўсіх гэтых запытаньняў маладым працаўнікам на ніве беларускае навукі. Трэ' мець адвагу зусім шчыра й адкрыта прызнацца ў тым, што мы ведаем і чаго яшчэ ня ведаем аб Беларусі, аб нашым народзе. Гэта ёсьць патрэбна дзеля таго, каб правідлова разрахаваць і разьмяркаваць свае сілы, каб скласьці плён свае навукова-дасьледчае працы. Ня трэба пужацца таго, што наша веданьне аб Беларусі ёсьць надта

абмежаванае, нязначнае. Ведаць мала — гэта яшчэ не азначае нічога ня ведаць, гэта азначае толькі тое, што трэ' больш ведаць!

Настаў час, калі мы павінны ўрэшце прыступіць да пляновага і сыстэматычнага досьледу і вывучаньня Беларусі, усіх асаблівасьцяў беларускае самаістае індывідуальнасьці.

Гэта ёсьць праца надта вялікая і адказная. Яна ня можа быць выканана паасобнымі людзьмі, самотнымі працаўнікамі. Трэ' працаваць аб'яднанымі сіламі. Нямінуча ёсьць патрэбна разьмеркаваньне працы па фаху ў кожнай галіне веды. Дзеля гэтага патрэбны беларускія навуковыя фахоўцы: этнографы, географы, гісторыкі, філялёгі, эканамісты, праўнікі, сацыялёгі ды інш.

Беларусь ляжыць адлогам, пакрыта дзірваном няведаньня, а ў значнай меры і балотам, дзе чэрці водзяцца, каторыя сваімі хітрыкамі ды рознымі выкрутасамі трымаюць наш народ у цемры. Але час прабіў, далей чакаць нельга. Мы павінны ведаць праўду аб Беларусі, праўду рэчаістую, навуковую!

Першай і аснаўной падвалінай навуковага досьледу й вывучаньня Беларусі мае быць — шуканьне рэчаістае праўды. Шуканьне рэчаістае праўды мае адбывацца ў спосаб аб'ектыўнае аналізы фактаў жывой рэчаістасьці. Мы павінны ведаць, што ёсьць і, як яно ёсьць — усебаковы досьлед і вывучаньне фактаў жывой рэчаістасьці. А дзеля гэтага — зьбіраньня, сыстэматызаваньня фактаў, складаньня дыяграмаў, картаграмаў—патрэбна статыстыка. Адна праўдзіва складзеная статыстычная дыяграма мае большую вартасьць ад тысячы фантастычных разважаньняў!

Наша мэта — ведаць рэчаістую праўду аб сабе, аб сваім народзе, аб нашым Родным Краі. Гэтае мэты дасягнемо толькі ідучы шляхам навуковага досьледу і вывучаньня ўсіх асаблівасьцяў, якімі адрозьніваецца беларускі народ ад іншых народаў.

Дзеля гэтага—патрэбны досьлед і вывучаньне прыродных падвалін і тых прыродных абставін, у якіх мы жывём, у якіх жыве наш беларускі народ, у якіх працуе, думае, адчувае; справа ідзе тады аб антропалёгічным досьледзе і вывучаньні, аб усталяньні морфолёгічных і фізыялёгічных адзнакаў і асаблівасьцяў, аб якасьці арганічнага здароўя нашага народу; справа ідзе так-жа аб досьледзе і вывучаньні прыродных, матэрыяльных багацьцяў, аб укладзе гаспадарскага жыцьця, гаспадарскіх патрэбнасьцяў, аб псыхічным і маральным характары, аб тэорэтычным і практычным адношаньні да пытаньняў гаспадарскіх, палітычных, праўных, рэлігійных, культурных, маральнаэтычных.

Увесь досьлед і вывучаньне Беларусі, як географічнай, культурна-гістарычнай і сацыяльна-эканамічнай адзінкі, а беларускага народу, як самаістай нацыянальна-сацыяльнай асабістасьці, — мае апірацца на фактах жывой рэчаістасьці і адбывацца ня толькі ў разрэзе сацыяльнае статыкі, але й сацыяльнае дынамікі. Трэ' прасачыць паступенны ўзрост і разьвіцьцё, усталіць ступені ўздойму і заняпаду, іх прычыны й вынікі ўва-ўсіх галінах жыцьця.

І толькі тады, як будзе зроблены гэткі сацыялёгічны досьлед і вывучаньне Беларусі—і з боку прыродных абставін і што датыча

асаблівасьцяў арганічных, псыхічных і сацыяльных, — можна будзе з пэўнай праўдападобнасьцю сказаць, што мы ведаем наш беларускі народ.

Затым, ад аналізы фактэў жывой рэчаістасьці мы зможамо перайсьці да іх сынтэзы і вызначыць тэндэнцыі і пэрспэктывы далейшага разьвіцьця, акрэсьліць філязофію гісторыі беларускага народу, пабудаваць філязофію вызвольна-адраджэнскага руху.

Разам з гэтым мы павінны будземо яшчэ зрабіць падробную аналізу міжнароднага становішча Беларусі, усталіць мейсца Беларусі ў сыстэме ўзаемаадносін народаў усходняе Эўропы і ўсяго сьвету.

Зрабіўшы гэта — падаўшы падробныя высьвятленьні аснаўных падвалін самастойнага істнаваньня Беларусі, у форме незалежнае дзяржавы ў прыродна-этнографічных межах, ды ўключаньне яе ў сусьветную сыстэму гаспадарскіх, культурных і палітычных узаемаадносін паняволеных і самастойных народаў, — мы зможамо тады вызначыць і міжнародную палітыку Беларусі.

Ясна і зразумела: займаючыся сацыялёгічным досьледам і вывучаньнем Беларусі, мы не павінны заплюсчываць вочы і на той факт жывой рэчаістасьці, што насельніцтва Беларусі ня ёсць адналіта-суцэльная адзінка, а зьяўляецца адзінствам, складной сыстэмай узаемачыннасьці рожных угрупаваньняў і агрэгатаў. Нацыянальныя меншасьці на Беларусі — расейская, жыдоўская, польская, украінская, літоўская, татарская ды інш., а так сама праблема места й вёскі—ўсё гэта ёсьць вельмі складныя пытаньні, вымагаючыя асобнага досьледу і вывучаньня.

Гэтак сама і ўнутры беларускае нацыі, як і ў кожным нацыянальным грамадзянстве, ёсьць шэраг угрупаваньняў, якія ўзаемна сябе перасякаюць, крыжуюцца і г. д., маюць асобную зацікаўленасьць гаспадарскую, палітычную, культурную, а ў тым ліку рэлігійную, мастацкую, маральна-этычную. Усё гэта мы павінны браць пад увагу, аб'ектыўна дасьледжваць і вывучываць, выходзячы з аснаўной засады сацыялёгічнага рэалізму: шуканьня рэчаістае праўды.

Аб'ектыўны дасьледчык ня можа ня спыніць свае пільнае ўвагі і над партыйнай справай; узьнік, праграма, статут, тэорэтычнае угрунтаваньне праграмы, ідэолёгія, тактыка практычнае дзейнасьці— усё гэта мае быць дасьледжана, вывучана, уведзена ў залежнасьць з агульным поступам беларускага вызвальна-адраджэнскага руху.

Трэ' мець на ўвазе, пры гэтым, што сучасны беларускі вызвальна-адраджэнскі рух ня ёсьць прыпадковая зьява, ня выкліканы „ворагамі славянства", як дзе-хто думае (нават сярод людзей навукі!),— а законная нямінучасьць гістарычнага поступу арганічнага разьвіцьця беларускай этнічнай асабістасьці.

Каму гэта ня ведама! Вельмі часта прыходзіцца чуць, што Беларусы ня маюць свае гісторыі, ня маюць свае культуры, во, нават і мову беларускую ўважаюць „гаворкай", а беларускі народ — „веткай" рускага народу! Есьць і гэткага сорту „навуковыя" разважаньні: Беларусь ёсьць бедны край, ня можа сябе пракарміць, патрабуе дапамогі, апекі, а таму — самой гісторыяй і аб'ектыўнымі абставінам

сучаснасьці ёсьць засуджана быць толькі служанкай, а ніколі — самастойнай гаспадыняй.

Беларускі сацыялёг, які займаецца аб'ектыўным досьледам і вывучаньнем Беларусі — Беларускае Справы — павінен усебакова і падробна разгледзіць усе гэтыя „навуковыя“ развашаньні, выявіць іх фальш, ману і ўвесьці адпаведныя доказы з фактаў живой рэчаістасьці.

Усе развашаньні аб Беларусі, аб беларускім народзе, якія ня ўгрунтоўваюцца на фактах живой рэчаістасьці, — павінны з усей рашучасьцю адкідацца як фантазыя,—няхай сабе яны і высказваюцца „людзьмі навукі“, заслужанымі прафэсарамі, акадэмікамі ды інш.

У сацыялёгіі няма іншых аўторытэтаў — апрача фактаў живой рэчаістасьці!

Гэтыя факты мы патрабуем для сваіх цьверджаньняў, вымагаем іх і ад нашых ворагаў!

Беларусь мае быць дасьледжана і выўчана сацыялёгічна!

Дык вось: працы, як бачым, ёсьць вельмі многа. Але ці ёсьць толькі працаўнікі? Ці ёсьць патрэбныя навуковыя фахоўцы, якія-б ужо сяньня маглі прыступіць да выкананьня гэтае працы?

Аб гэтым ня можа быць ніякага сумліву: патрэбныя працаўнікі ёсьць, ужо ёсьць беларускія навуковыя фахоўцы амаль ува-ўсіх галінах веды.

Але аднаго толькі няма: патрэбных абставін для навуковае працы.

За апошнія гады, як ведама, дзесяткі і сотні беларускай моладзі, ідучы рознымі шляхамі, — хто „на цянькі“, а хто йначай, — змаглі атрымаць вышэйшую адукацыю. Значная большасьць яшчэ вучыцца, заканчывае сваю навуковую адукацыю.

Атрымаўшы дыплёмы дахтароў, інжынераў, набыўшы фаховага веданьня вышэйшай кваліфікацыі, усе яны цяпер (а з кожным годам усё ў большым ліку) вяртаюцца на „мілыя палеткі Беларусі роднай“, каб знайсьці прыстасаваньне свайго веданьня.

І з вялікім сумам трэба адзначыць — ня так ужо лёгка гэта знайсьці, асабліва-ж тым, хто мае ахвоту навукова працаваць, удасканаліваца ў сваім фаху, хто хоча навукова працаваць у галіне досьледу і вывучаньня Беларусі. Іх чакае шмат розных перашкодаў. І галаўнейшая з іх — адсутнасьць вышэйшых беларускіх навуковых установаў. У нас няма яшчэ Беларускай Акадэміі Навук, няма Беларускага Сацыялёгічнага Інстытуту; нават і тыя два ўнівэрсытэты, якія сяньня істнуюць на Беларусі, зьяўляюцца — адзін польскім, а другі — расейскім, у якіх адбываецца праца — над узбагачаньнем польскае ці то расейскае навукі і культуры. І беларускаму навуковаму працаўніку няма дзе прыпыніцца.

Абставіны складаюцца, як у тэй песьні народнай —

„А ў бары, ў бары дзьві тры дарожанькі“...

Па якой-жа з іх пайсьці? Пэўне-ж, адказ можа быць толькі адзін: трэба выбіраць тую „сьцежаньку“, што вядзе ў „родну мяжаньку“. Іншага адказу няма й быць ня можа!

Годзе ўжо й таго, што зрабілі Беларусы для польскай і расейскай навукі! Шэраг выдатнейшых беларускіх навуковых працаўнікоў і аж па сяньняшні дзень усё яшчэ працуюць на ніве польскай ці то расейскай. Ня будзем іх ганьбіць за гэта. Яны — ахвяры часу. Цяжкія абставіны жыцьця іх змусілі да гэтага.

Але ня ў прыклад ім — маладыя беларускія навуковыя працаўнікі і ўсе тыя, што рыхтуюцца імі стаць у бліжэйшым часе; — усе яны павінны стаць Асілкамі, каб супольнымі сіламі перамагчы перашкоды на шляху да арганізацыі беларускае навукі і ў першую чаргу — веды аб Беларусі.

Патрэбна толькі шчырае жаданьне, а спосабы знойдуцца.

Дык — жадайма быць Асілкамі!

І переможам усе цяжкія абставіны жыцьця, асілім усе перашкоды. А тады — як кажа наш паэт:

„Сонца навукі, скрозь хмары цёмныя,  
Загляне ясна над нашай ніваю.  
І будуць жыці дзеткі патомныя —  
Доляю роўнай, доляй шчасьліваю"!..

*МІКОЛА ІЛЬЯШЭВІЧ.*

# Паходжаньне, старадаўнія весткі і антрополёгічныя адзнакі Беларусаў *).

Калі ўпяршыню з'явіўся чалавек на тэрыторыі сучаснае этнографічнае Беларусі, цяжка нешта акрэсьленае сказаць. Ягонае зьяўленьне тутака можна сабе прадугледжваць у сувязі з тагачаснымі (ў мінуўшчыне) кліматычнымі варункамі. Пад той час, як Беларусь, разам з усей паўночнай часьцю Усходняе Эўропы, была пакрыта ледавіком, ужо ў паўдзённай часьці — на Украіне — жыў чалавек. З зьменай-жа клімату варункі жыцьця станавіліся болей адпавядаючыя, а калі зышоў з Беларусі ледавік, пасунуўся з поўдня і чалавек апанаваўшы ўсю нашу краіну ў большым альбо меншым ліку, па пэўных асяродках. Архэолёгічныя досьледы на Беларусі ня ўказваюць на тое, што ўжо ў часы палеоліту, асабліва ў паўночна-ўсходняй часьці (Вітабшчына і Смаленшчына), а таксама ў цэнтральнай часьці Беларусі—жылі людзі. Праўда, памятак захавалася мала, мо' адчасці нам няведамыя з прычыны малых досьледаў, але затое ў большай меры можна знайсьці памяткі нэоліту. Апошнія асабліва пашыраны ў Паўночнай і Заходняй Беларусі (на левым беразе ракі Заходняе Дзьвіны і рэках Нарэву й Бугу). Захаваўшыяся магілы,

*) Гэты нарыс зьяўляецца кароткай выбаркай з прыгатаванае аўтарам працы: „Беларусь, як самастойная антропогеографічная адзінка".

пры раскопках, асабліва з нэолітычнае эпохі, многа даюць цікавага матэрыялу для цьверджаньня, якія людзі засялялі нашую Бацькаўшчыну. Вось-жа перадусім таму, што найбольшая лічба чэрапаў захавалася доўгагаловых, вучоныя думаюць, што тутэйшае жыхарства было прототыпам пляменьняў славянскіх, дый магчыма нават, пляменьняў, з якіх утварыўся пазьней народ Беларускі *). Гыпотэзу гэтую можам разьвіваць перадусім паводле падстаў, на якіх базуецца чэскі вучоны праф. Л. Недэрле, каторы кажа, што першыя славяне былі доўгагаловыя. Гэтая доўгагаловасьць захавалася выключна амаль што ў Беларусаў **). Пры гэтым раскопкі сьведчаць аб тым, што культура тутэйшага жыхарства была даволі разьвітая, вытварыўшыся ў рожных пэрыядах (каменным, мэталёвым), пераважна самастойна і орыгінальна. Асаблівае ўвагі заслугоўвае цэраміка (ў Горадзеншчыне), а таксама рожнае аружжа і інш. Усё гэта сьведчыць, бязумоўна, што Беларусь у часы прадгістарычныя была культурным асяродкам. Магілы, галоўныя старажылы тагачасных асаблівасьцяў жыхарства, на Беларусі зусім іншага характару ад магілаў суседніх славянскіх народаў. Гэта сказваецца як у пахавальным рытуале, гэтак і па застаўшыхся прыладзьдзях.

Якія-ж пляменьні жылі і вытварылі культуру ў гэтыя перадгістарычныя часы? Палеоантрополёгія і архэолёгія хочуць бачыць у тутэйшым жыхарстве Славянаў, хоць ня ёсьць выключана, што тут жылі і Літоўцы, асабліва ў заходняй часьці, а таксама фінскія пляменьні—ў усходняй часьці Беларусі. Аднак хоць і ёсьць гэтыя цьверджаньні, але яны не заслугоўваюць шырокага распаўсюджаньня. Ёсьць факт, як цьвердзіць прафэсар Недэрле, што ў часы нэоліту беларускі край быў заселены індоэўропэйскімі пляменьнямі. Думка, што магчыма тут жылі і літоўскія пляменьні, паўстала галоўным чынам з таго, што ў географічнай номэнклятуры многа літоўскіх назоваў: ёсьць некаторыя лінгвістычныя і антрополёгічныя супольныя знакі паміж Беларусамі і Літоўцамі, дый, нават,—Латышамі. Як гэтыя разьдзяленьні выступаюць, ніжэй пабачым.

З славянскімі пляменьнямі на тэрыторыі Беларусі можам спаткацца пад рожнымі назовамі. Так напрыкл. Гэродот, у V стагодзьдзі прад Нарадж. Хр., гаворыць аб Будынах, каторыя жылі на Беларусі ў вобласьці лясоў і балотаў, аб іх успамінае і Птолёмэй (у Географіі III. 5. 5.); пазьней яшчэ канцом I ст. па Нар. Хр. — Тацыт гавора аб Вэнэтах (Вэндах) ***), у якіх Шафарык, Недэрле і іншыя вучоныя хочуць бачыць автахтонаў гэтае краіны. Пры гэтым тэорыя праф. Недэрле, агульна прызнаная, аб прабацькаўшчыне славянаў, часьцю прыпадае і на сучасную этнографічную Беларусь, а ласьне на паўдзённую частку Горадзеншчыны, Меншчыны, Магілёўшчыны, Чарнігаўшчыны, што нас прымушае яшчэ да большае ўвагі ў антрополёгічным досьледзе на Беларусі ****).

*) Е. Ф. Карскій, Бѣлорусы Т. I. стр. 33. Вільно 1904 г.

**) L. Niederle, O Pŭrodu Slovanŭ, st. 55—87, Praha r. 1896.

***) „Germania" XLVI.

****) L. Niederle „Slovanske Starožitnosti" 112 str.

Беларускія пляменьні асеўшыя аканчальна на сучаснай тэрыторыі (каля V — VIII ст. па Нар. Хр.) пакінулі першыя гістарычныя весткі толькі з паловы IX стагодзьдзя. Ужо на падставе навуковых даных ёсьць устаноўлена, што Беларускі Народ паўстаў з трох усходняславянскіх пляменьняў: Крывічоў, Дрэговічаў і Радзімічаў. У працэсе супольнага гістарычнага жыцьця, супольных фізычна-географічных, культурных, гаспадарчых і палітычных варункаў, канцом XIII стагодзьдзя выступаюць гэтыя пляменьні як самастойная, яскрава выіндывідуалізаваная адзінка ў этнографічным і антропогеографічным разуменьні *). Рожныя адзнакі Беларусаў, творачыя падстаўны разьдзел ад іншых, наогул, народаў, хоць і ня былі сільна разьвітыя, але бязспрэчна былі і толькі ў пазьнейшыя часы прынялі больш выразны характар. З канцом XIII стагодзьдзя прыпыняецца пэрыяд удзельнага княжаваньня і Беларусы злучаюцца ў Беларуска-Літоўскі дзяржаўны хаўрус, у якім Беларусы сябе адчуваюць панамі дзяржаўнага становішча.

Раўнінаасьць Усх. Эўропы была прычынай, што па ёй ішло множства рожных качоўных народаў ад прадвесьні гісторыі аж амаль не да XVIII стагодзьдзя, а таму антрополёгічныя адзнакі сьведчаць аб вялікім крыжаваньні (мэтысацыі) ўсходня-эўропэйскіх народаў. Мэтысацыя тут адбывалася будзь натуральным спосабам, альбо стыхійна, вайной, насільлем і г. д. Фізычна-географічныя варункі на Беларусі, г. ё. перадусім лясістасьць і балоцістасьць, што для някультурных барбараў з іх прымітыўнай тэхнікай ня былі прыступны, затрымоўвалі качэўніцкія навалы на граніцах, а гароўна спрыялі захаваньню чыстаты старадаўнага беларускага тыпу ў антрополёгічным разуменьні. Лясы й балоты згулялі ў даным прыпадку колёсальную ролю. (Наскольки вялікая ёсьць магчымасьць такога цьверджаньня, можна пацьвердзіць і тым фактам, што Наполеон I пры сваім паходзе на Маскву праз Беларусь,—назваў яе пятай стыхіяй, а гэта таму, што да 4-ох аспаўных: агню, вадзе, зямлі і паветру—далучаецца балота, а дзеля гэтага абагнуў значна, хоць трохкутнік беларускага Палесься). Гэтак у той час, калі крыжаваньне ў суседніх народаў з Беларусамі было даволі інтэнсыўнае, калі Украіна аж да XVIII ст. залівалася крывёй і была зьнішчана качоўнікамі, як напр. Гунамі, Уграмі, Баўгарамі, Печанегамі, Татарамі, Калмыкамі і інш.; калі Велікарусы цярпелі пад ігам Татараў ды адбывалася даволі інтэнсыўная ассыміляцыя Велікарусамі тюркскіх і угра-фінскіх пляменьняў; калі на Польшчу ціснуліся германскія пляменьні, ассымілюючы Палабскіх славянаў, а часткова і Літоўцаў, — тады беларускі народ, дзякуючы сваёй вялізарнай ахраннай прыродзе, быў захаваны ад усіх гэтых навалаў. А гэтым і тлумачыць праф. Ліманскі нават самы назоў **Беларусь**, пашыранага ўжо з паловы XIII ст. Вось чаму характэрнай ёсць і тая асаблівасьць, што, — калі ўсюды навокал Беларусі панавала дэспотыя, тыранія някультурных барбараў, былі ненармальныя абставіны,— Беларусы здолелі захаваць свой тып, толькі часткова прыняўшы крыві літоўскіх і польскіх пляменьняў (але йноў-жа арыйскае!). Так

*) Карскій, стр. 110.

маглі паўстаць дзякуючы гістарычна-палітычным, а галоўнае географічным мамэнтам і абставінам рожныя антраполёгічныя асаблівасьці, уласьцівыя кожнаму з гэтых народаў, паўстаўшых у насьледку зазначаных працэсаў.

Антраполёгія, як гісторыя прыроднага разьвіцьця людзтва, займаецца характэрыстычнымі адзнакамі азначанага народу, разглядае ягонае разьвіцьцё і ўзаемнае адношаньне да акружаючае прыроды і разьдзельчыя знакі чалавека. Зароўна-ж імкнецца ўказаць на гэтыя разьдзельваючы чыньнікі, якія і ў антрапогеографіі маюць важнае значэньне.

На жаль матэрыял антраполёгічны ў Усходняй Эўропе зьбіраны несыстэматычна, дрэнна клясыфікаваны, так, што рабіць ужо аканчальныя вывады яшчэ за рана. Пры разглядзе антраполёгічных адзнакаў у Беларусаў мусім зьвярнуцца да прац: Анучына, Іваноўскага, Талько-Грынцэвіча, Янчука, Недэрле. Пазьней пабачым, што антраполёгічныя адзнакі, як у будове цела чалавека наогул, а тады разумеецца і ў Беларусаў, напр: узрост, шырыня грудзёў, даўжыня рук, ног; форма чэрапа, твару, фарба скуры, вачэй, валасоў і г. д.—надзвычайна важныя знакі пляменьняў і расаў, што ёсьць зьявішчам прыродным, а няштучным. Як паўсталі гэтыя разьдзелы, яшчэ дагэтуль антраполёгія адказу не дала. Магчыма, што эволюцыйная тэорыя ў гэтым напрамку пакажа шлях. Дзедзічнасьць, мэтысацыя і іншыя чыньнікі, перадусім-жа йзноў географічныя, вытварылі гэтую рожніцу. Таму, як зусім удала зазначыў Фр. Ратцэль, акружаючая прырода ня толькі пакідае сьлед на духоўную і матэрыяльную культуру чалавецтва, але пакідае сьляды і на яго вонкавым выглядзе. Адсюль выплывае і тое, што больш як тысячагадовае прабываньне Беларусаў на сваей тэрыторыі пакінула значны сьлед у залежнасьці ад прыроды і гістарычна-палітычных абставінаў. Антраполёгія, якой на помач прыходзяць іншыя дысцыпліны, як археолёгія, этнографія і т. п., бачыць у Беларусаў асобны народ, які сваёй арыгіналітай як найболей захаваў тып славянскі, каторы скупляе ўвагу многіх вучоных ўсяго сьвету.

У гэтым кароткім нарысе мы ня будзем займацца дэталямі антраполёгічных знакаў у Беларусаў, а зазначым найгалаўнейшыя:

*Узрост* звычайна ёсьць першым з антраполёгічных знакаў пры разьдзяленьні народаў, альбо чалавека ад чалавека.

На падставе антропомэтрыцкага досьледу можам бачыць, што Беларусы ўзросту сярэдняга. Сярэдняя вышыня ў Беларусаў ля 1667 мм., у суседніх народаў: Украінцаў ля 1685 мм., Вялікарусаў— 1657 мм., Палякоў (з Конгрэсоўкі) — 1662—1663 мм. *).

Пры гэтым у Беларусаў на 100 асоб прыпадае 37 проц. нізкага ўзросту, 63 проц. — высокага.

Беларусы жывуць пасярэдзіне паміж двумя асяродкамі высокарослага тыпу: чорнаморскага (Украінца) і надбалтыцкага (Літоўца,

*) Ивановскій, „Населеніе земного шара". „Труды антропологического общества". Том XXVII, Стр. 86.

Латыша). Ёсьць на Беларусі і лёкальныя адхілкі, але звычайна пры граніцах з суседнімі народамі. Акрэсьленых граніц антрополёгія ня ведае, разуменьне гэтае — проблематычнае.

*Форма чэрапа* таксама важны мамэнт у антропомэтрыцкіх досьледах. Беларусы ў гэтым аглядзе, як мы ўжо зазначалі вышэй, прадстаўляюць цікавы тып, у якім антрополёгі хочуць бачыць найстаршы і найчысьцейшы тып славянскі.

Калісьці славяне былі доўгагаловыя і толькі пазьней сталіся кароткагаловыя. Гэтая доўгагаловасьць найболей захавалася ў Беларусаў. Антрополёг Іваноўскі падае сярэдні індэкс для Беларусаў 81.87 (суббрахіцэфалы).

| Нацыянальная прыналежнасьць | Брахіцэфалы | Мэзоцэфалы | Доліхоцэфалы |
|---|---|---|---|
| Беларусы | 64 проц. | 23 проц. | 13 проц. |
| Велікарусы | 73 „ | 18 „ | 9 „ |
| Палякі | 71 „ | 18 „ | 11 „ |

Сярэдні індэкс:

| | |
|---|---|
| Беларусы . . . . . . | 81.87 (доўгагаловыя) |
| Велікарусы . . . . . . | 82.41 |
| Палякі . . . . . . . | 82.35 |
| Літоўцы (з Вялік. Літвы) | 82.— |
| Літоўцы (Жмудзь) . . . | 81. 6 |
| Латышы . . . . . . . | 78. 5 |
| Украінцы . . . . . . | 83. 3 (кароткагаловыя) |

Паводле краніелёгічных досьледаў Беларусы зьяўляюцца якраз рэпрэзэнтанты калісьці доўгагаловага славянскага тыпу, толькі Палякі й Велікарусы ў суседзтве з Беларусамі маюць індэкс чэрапу троху падобны.

Знак характэрызуючы Беларусаў, як праславянскі тып, праяўляецца і ў сьветлай комплексыі *хварбы вочаў і валосься* *):

| | Сьветлы тып | Цемны тып |
|---|---|---|
| Беларусы | 57 проц. | 11 проц. |
| Палякі | 57 „ | 15 „ |
| Велікарусы | 40 „ | 20 „ |
| Украінцы | 15 „ | 40 „ |

| | Валасы | | Вочы | |
|---|---|---|---|---|
| | сьветлыя | цемныя | ясныя | цемныя |
| Беларусы заходнія | 82.4 | 17.6 | 79.1 | 29.9 |
| Беларусы ўсходнія | 76.7 | 23.3 | 70.3 | 29.7 |
| Беларусы з Палесься | 71.3 | 28.7 | 24.8 | 25.2 |
| Агулам у Беларусаў | 76.7 | 23.7 | 74.6 | 25.4 |

Значыцца Беларусы адзначаюцца сьветлай комплексыяй ад суседзяў і ў большай меры ад іншых народаў.

*) Niederle, ibidem стр. 63. Talko-Hryncewicz „Charakterystyka fizyczna“ стр. 89.

Устанаўленьнем адносінаў *абьйма грудзёў да вышыні галавы* дастанем наступную табліцу:

| Нацыянальная прыналежнасьць | | Малое адношаньне | Сярэдняе | Вялікае |
|---|---|---|---|---|
| Беларусы | 53:36 проц. | 7 проц. | 66 проц. | 27 пр. |
| Украінцы | 55:04 „ | 3 „ | 52 „ | 45 „ |
| Палякі | 53:94 „ | 5 „ | 62 „ | 33 „ |
| Велікарусы | 52:34 „ | 11 „ | 65 „ | 24 „ |

*Даўжыня рук і ног* у адношаньні да вышыні цела выглядае гэтак:

| | Рукі | Ногі |
|---|---|---|
| Беларусы | 45.76 (кароткія) | 51.2 |
| Украінцы | 45.63 | 53.6 |
| Палякі | 46.21 | 52.1 |
| Велікарусы | 46.06 | 50.6 |

З іншых адзнакаў антраполёгічных можам уставіць форму *твару і носу*, як адношаньне найбольшай шырыні носу да яго даўжыні.

Беларусы маюць нос роўны ў нізу троху расшыраны, 52 проц. лепторыны, 41 проц. мэзорыны, 7 проц. плацірыны.

Сярэдняе адношаньне:

| | |
|---|---|
| Беларусы | — 69.2 |
| Украінцы | — 67.7 |
| Палякі | — 66.2 |
| Велікарусы | — 68.5 |

*Твару* Беларусаў — г. ё. адношаньне шырыні да даўжыні — ёсьць 186, у Палякоў—181, Велікарусаў—182, Украінцаў—180. Пры гэтым у Беларусаў 4 проц. малы, 57 проц. сярэдні, 39 проц. вялікі.

Антраполёгічных адзнакаў, як напр. індэкс шкілету (ягоная вышыня і шырыня), і інш. уласьцівасьцяў, якія зароўна характэрызуюць асаблівасьці беларускага тыпу, мы парушаць ня будзем.

Дый вышэй пададзеныя лічбы трэба браць як лічбы прыблізныя і мусяць быць падданыя крытыцы. Беларусы, як і ўсе народы эўрапэйскія, ёсьць народам у антраполёгічным разуменьні мяшаным.

Ідэальна чыстых народаў, асабліва культурных, няма, а таму антраполёгічныя знакі твораць толькі адзін з многіх чыньнікаў антропогеографічнага разуменьня Беларусі як індывідуальнай адзінкі.

Фізычна адзначаецца Беларус дэлікатнай структурай свайго арганізму: здаровы, сільны і вытрывалы. Як працоўная сіла Беларуса, заўсёды ахвотна шуканая, асабліва ў капальнях.

Найболей праяўляецца гэтая вытрываласьць на Бацькаўшчыне, гдзе Беларус мусіць цяжка працаваць на кавалак хлеба на полі, патрабуючым ня мала штучнага ўдабрэньня.

Толькі некаторыя з сільнейшых палітычна суседніх народаў не хацелі прызнаць гэтае рысы таму, што мелі ў гэтым пэўную карысьць у эксплёатацыйных мэтах. Беларускі народ, ня гледзячы на пэўную адсталасьць у заходня-эўрапейскай цывілізацыі, што ёсьць уласьціва ўсей усходняй Эўропе (ня выключаючы нават Польшчу,

якая належыць да гэтага самага кругу), у сваей масе ёсьць поўны сілы і жывучасьці, а таксама здольнасьці захоўваць жыцьцё жыцьцём на будучыню, чэрпаючы энергію з сябе і акружаючае прыроды. Войны адбываючыяся на Беларусі з страшэннымі вынікамі, далей ассыміляцыя альбо проста дэпопуляцыя ў адносінах да Беларусаў сільнейшых палітычна народаў, ня зьнішчылі зусім гэтае жывучасьці ў Беларускім народзе, хоць Беларускі народ амаль зусім быў вычаркнуты з мапы Эўропы.

Галоўная прычына гэтае народнае жывучасьці, якая мае імкненьне да павялічаньня лічбы жыхарства, ёсьць плоднасьць.

Перад вайной, паводле лічбы народжаных, Беларусь займала трэцяе месца ў Эўропе, гэта нават тады, калі ровень культурны і эканамічны на Беларусі быў далёка не задавальняючы. Прырост беларускага жыхарства асабліва добра можна прасачыць па ніжэй пададзенай табліцы, зложанай нашым географам А. Смолічам за 1911 — 13 г. *).

| Губэрніі | на 1000 жыхараў: | | |
|---|---|---|---|
| | нарадзілася | памерла | натуральны прырост |
| Віленская | 32 | 19 | 13 |
| Вітэбская | 35 | 18 | 17 |
| Горадзенская | 32 | 17 | 15 |
| Менская | 39 | 19 | 20 |
| Магілеўская | 41 | 20 | 21 |
| Смаленская | 50 | 30 | 20 |
| Чарнігаўская | 40 | 21 | 19 |
| Агулам на Беларусі | 38 | 20 | 18 |
| У Эўрапэйскай Расеі | 44 | 27 | 17 |

Бачым, што сярэдні прырост на Беларусі выносіць 1.8 проц. За час вайны сусьветнае і грамадзянскае (1914—1921) і ўцякацтва проц. прыросту значна ўпаў, але бязспрэчна, што палепшаньне жыцьцёвых варункаў прывядзе напэўна да павялічэньня лічбы жыхарства Беларусі і да нармальнага стану.

*Прага.*

*) А. Смоліч, кароткі курс географіі Беларусі, Менск, 1925 г.

# Мэты і заданьні АБСА.

Мо' хто спытаецца: а што такое АБСА, што гэта за арганізацыя і чаго яна дамагаецца?

АБСА —гэта ёсьць Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяй; узьнікла яно на эміграцыі і мейсца „сталага" быцьця яго ёсьць Прага—найвялікшы асяродак сучаснай славянскай культуры.

Чаму ўласьне ў Празе, а ня-дзе небудзь у іншым мейсцы паўстала да жыцьця АБСА —гэта зусім ясна і зразумела: у Празе ёсьць найбольшы лік беларускага студэнства, якое, з прычыны даволі добра ўсім ведамых, змушана было за апошнія некалькі гадоў павандраваць у далёкую чужыну, каб здабыць сабе вышэйшую асьвету ды зьвярнуўшыся пасьля на Бацькаўшчыну стаць карыснымі будаўнічымі лепшае яе долі.

Па ўсей Эўропе ёсьць цяпер параскіданы гурткі і арганізацыі беларускага студэнства, амаль у кожным унівэрсытэцкім месьце можна знайсьці беларускага студэнта, выхадца „цемры сярмяжнай",— які з высока паднятым чалом, з адвагай і нязломнаю верай глядзіць у будучыню свае й Бацькаўшчыны, пільна займаючыся ўсебаковым выўчэньнем мінуўшчыны і сучаснага стану эўрапэйскай культуры, здабыткаў і дасягненьняў ува ўсіх галінах веды і тэхнікі.

Каліська Фр. Багушэвіч, пачынальнік беларускага вызвальна-адраджэнскага руху, пісаў:—

„Даўней, кажуць, праўда па сьвеце хадзіла. Жабруючы-ж зьмерзла, а людцы схавалі, каб ня чуць, ня ведаць аб ёй ані весьці"...

Гэту праўду і хочуць знайсьці і ведаць „сыны мужыцкія"! АБСА ня ёсьць палітычная арганізацыя, а таму ніякіх палітычных мэтаў і заданьняў сабе ня ставіць.

АБСА ёсьць выключна акадэмічная арганізацыя, аб'яднаньне беларускіх студэнскіх арганізацыяй на грунце сабедапамогі маральнай, культурнай і матэрыяльнай.

Дзеля зьдзейсьненьня гэтых мэтаў АБСА прадстаўляе студэнства перад уладамі, у грамадзянстве, у міжнародных студэнскіх арганізацыях, дапамаговых студэнскіх ды іншых установах, стварае і падтрымлівае арганізацыі, якія бароняць інтарэсы студэнства; арганізуе зьезды, сходкі, выстаўкі, забавы, лекцыі, выданьні ды інш., вядзе міжнародную акцыю дзеля дапамогі беларускаму студэнству; арганізуе з гэтаю мэтай дапамогавыя фонды.

Сродкі АБСА складаюцца з сяброўскіх складак, якія вызначаюцца зьездам, з розных ахвяраў ды зыску з прадпрыемстваў.

Сябрамі АБСА могуць быць усе беларускія студэнскія, непалітычныя, становыя арганізацыі; чыннымі сябрамі зьяўляюцца ўсе студэнты, сябры арганізацыяў, якія ўваходзяць у склад АБСА.

Кіраўнічымі ўстановамі АБСА зьяляюцца: зьезд, прэзыдыум, рэвізыйная камісія і міравы суд.

Мінае ўжо трэці год існаваньня АБСА. Якія-ж дасягненьні ёсьць у напрамку рэчаістага зьдзейсьненьня пастаўленых мэтаў і заданьняў?

Дасягненьні ёсьць і нават значныя. Аб гэтым найкрасамоўней сьведчыць прабег 3-га зьезду АБСА, які нядаўна адбыўся ў Празе, на якім падробна і ўсебакова была разгледжана ўся дзейнасьць за мінулы час і вызначаны шлях працы на будучыню. Гэты шлях складаецца з наступных пунктаў:

1. Маючы на ўвазе, што АБСА аж да апошняга часу складалася ў пераважнай большасьці з эміграцскага студэнства, якое, трэба адзначыць, ня ўсё яшчэ згуртавана ў АБСА, трэба прыкласьці ўсе стараньні, каб у як найбліжэйшым часе ўсе беларускія студэнты на эміграцыі былі чыннымі сябрамі АБСА і каб да АБСА далучыліся беларускія студэнскія арганізацыі ў краі.

Увага: Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ўжо пазытыўна вырашыў пытаньне аб уваходзе ў склад АБСА.

2. Прабудзіць у шырокіх колах беларускага і чужога грамадзянства зацікаўленасьць жыцьцём беларускага студэнства ды прыйсьці з маральнай і матэрыяльнай дапамогаю, асабліва-ж тым незаможным студэнтам, якія, праз сваю матэрыяльную незабясьпечанасьць, ня маюць змогі прадаўжаць студыі на вышэйшых школах.

3. Прыступіць пры першае магчымасьці да выданьня свайго пэрыядычнага органу, а часова выдаваць непэрыядычны „Бюлетэнь“ у беларускай і францускай мовах, у якім падаваць падробныя весткі аб жыцьці беларускага студэнства як на эміграцыі, гэтак і ў краі.

4. І надалей падтрымліваць самую цесную сувязь з СІЕ, вольным сябрам якога зьяўляецца АБСА, ды праз гэта міжнароднае студэнскае аб'яднаньне інфармаваць студэнства ўсіх народаў аб долі беларускага студэнства і такім чынам бязупынна падтрымліваць міжнародныя зносіны АБСА.

Гэткія ў агульных рысах ёсьць галоўныя пункты пляну працы АБСА на бліжэйшы час. Ці выканае?

Усё залежыць ад стараннасьці сяброў кіраўнічых установаў АБСА, ад іх згоднай працы і галоўнае — разуменьня адказнасьці справы. Але гэта ня ўсё. Удачная дзейнасьць АБСА можа пашырацца толькі пры дружным супрацоўніцтве ўсіх яго чынных сяброў.

Вось-жа, маючы цьвёрдае перакананьне ў тым, што беларускае студэнства — „не цяпер, то ў чацьвер“, — а такі аб'яднаецца ў адну дружную сямью беларускай акадэмічнай моладзі і сваімі маладымі сіламі, сваім энтузыязмам і шчырай верай у лепшую, светлую долю Бацькаўшчыны створыць адзіна-суцэльную, магутную арганізацыю, рашуча адкідаючы ўсе недарэчныя сваркі ды звадкі,—з гэтым цьвёрдым перакананьнем і верай — прыступайма, сябры, да працы!

Больш веры ў сябе, у свае ўласныя сілы!

Д-р Тамаш Грыб.

*АДОЛЬФ КЛІМОВІЧ.*

# Беларускае студэнства ў жыцьці міжнародным.

Злая доля, што сотні цэлыя беларускай моладзі выгнала далёка ўпрочкі дзеля здабываньня асьветы, будзе мецъ і бязумоўна ўжо мае на далейшае разьвіцьцё інтэлектуальнага жыцьця нашага вялікія ўплывы, як позытыўныя, так і — меймо адвагу гэта ўжо сяньня прызнаць — нэгатыўныя. Пад увагу тут прыходзіць перадусім тая часьціна беларускага студэнства, што, шукаючы магчымасьці дакончыць сваю адукацыю, апынулася раз у дальшай, то йзноў у бліжэйшай чужыне. На гэту бо часьціну шмат надзеяў ускладалася, шмат аб ёй гаварылася і, бяз сумліву, больш яшчэ некалі аб ёй гаварыцца будзе. Ня маючы намеру тут быць пачынальнікам, вельмі патрэбнай, крытыкі сучаснага беларускага студэнства на эміграцыі, пазволю сабе толькі на пару зацемак, пакуль-бы такія былі ў сувязі з тэмай гэтага разважаньня.

Вось-жа самы ўжо факт прысутнасьці беларускага студэнства заграніцай, між чужых абставін і людзей, асабліва-ж сваіх равесьнікаў, стаўся мімавольнай панукай да навязаньня безпасрэдных зносінаў з гэтай-жа чужынёй. Гэта першая пара бытнасьці беларускага студэнства заграніцай паказывалася шмат-абяцаючай. Але ў меру таго, як лік беларускага студэнства множыўся, настаў і няшчасны, бо *безканечны* працэс г. зв. дыфэрэнцыяцыі. І гэта вось дыфэрэнцыяцыя, аплачаная найчасьцей „галовамі“ найбольш экспонованымі, з аднаго боку, ды павольна, але сыстэматычна змыкаючаеся кола ўплываў розных „пераможцаў“ у сьвеце міжнародных падзеяў—з другога боку, як змовіўшыся, палажылі разам канец супольнаму вонкаваму фронту ўсяго беларускага студэнства. Ад таго часу (1923 г.) гэты супольны фронт ужо больш не абнавіўся: палітычная іржа за надта глыбока яго ўжо разьела. Скарысталі з гэтага толькі ўсялякія элемэнты жыцьцём выпадкова між Беларусаў загнаныя і імі ў добрай веры за сваіх прынятыя: выракліся нават імя беларускага, што пэўне-ж ёсьць лепш, чымся каб яго і далей бяскарна злоўжывалі. Значная частка беларускага студэнства захапілася пасьля ідэямі ўсходніх падзеяў рэвалюцыйных і без засьцярогаў туды перайшла. Што раз страшнейшыя і чарнейшыя весткі аб нацыянальным уціску ў Заходняй Беларусі, скуль большасьць беларускага студэнства паходзіла, ламалі веру ў маладых і недазнаных душах і тымсамым заганялі іх усюды, абы толькі пазбавіцца прымусу вяртацца туды, скуль толькі што вырваліся і цану свабоды толькі што пазналі. Іншая рэч, ці, робячы так, разважалі і паступалі згодна з сумленьнем сьвядомага грамадзяніна свайго краю, свайго Народу. Факт толькі, што чым чарнейшыя і сумнейшыя весткі аб нацыянальным уціску даходзілі з Беларусі Заходняй, тым больш адзінак гарнулася пад скрыдлы Беларусі Ўсходняй. Гаварыць аб унутранай вартасьці так назьбіранага матэрыялу „грамадзян“, пры найлепшай волі, больш як трудна...

Адначасна з гэтым адбывалася тая-ж самая дыфэрэнцыяцыя ў радох беларускага студэнства ў краі.

Была такжа яшчэ і трэцяя часьць беларускага студэнства, якая, бачучы і балюча перажываючы ўсе цадзеі, на той час сучасныя, і вырахоўвуючы будучыню, рашылася на адважны крок заснаваньня адзінай цэнтральнай арганізацыі ўсіх арганізацыяў беларускага студэнства ў краі і за граніцай, на сколькі гэтыя арганізацыі яшчэ ня былі палонены ніякай думкай „хуткага вызваленьня" і спалягалі ў сваіх намерах толькі на ўласныя сілы, плывучыя з усенацыянальнага аб'яднаньня. Пры гэткіх абставінах і ўзьнікла на зьезьдзе прадстаўнікоў беларускага студэнства з краю і заграніцы ў Празе Чэскай у жніўні 1924 г. „Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў" (АБСА), гісторыю далейшага разьвіцьця каторага падае на іншым мейсцы асоба больш да гэтага пакліканая, бо ад самага пачатку і да сяньняшняга дня бязупынна ў справе запрацаваная, с. *В. Лаўскі* — сучасны старшыня АБСА. — Дзеля дапаўненьня толькі трэба найвыразьней зазначыць, што ня ўсе закладчыкі АБСА вытрывалі на занятым у названы час (1924 г.) становішчы. *Далёка ня ўсе!* Прогрэсуючы распад у радох уласнага студэнства, дагэтуль яшчэ добра ня вытлумачаная прычына няўдачы першага выступленьня беларускага студэнства, як АБСА, на полі міжнародным (VII-мы кангрэс СІЕ ў Варшаве), ды шмат і шмат прычынаў іншых — зе ў аднаго ламалі веру ў магчымасьць і мэтнасьць далейшага поступу на раз выбранай дарозе. Адпала ў гэтым часе шмат адзінак меншай і большай вартасьці. І проста зьдзекам, але адначасна і страшным для ўсіх малаверных *memento* — здаецца быць гэткі напр. факт, што на самай ужо додніне ўзьлёту АБСА (вясна 1926 г.) рады ягоныя пакідае і найвідавочней яго саботуе асоба, якая ад самага пачатку і праз першыя два гады існаваньня АБСА была ў цэласьці ягоным духам, служачы яму ўсім, апошкамі кволага здароў'я ня вылучаючы. .

* * *

Сягоньня, як ведама, АБСА зьяўляецца сябрам Міжнароднай Студэнскай Канфэдэрацыі (СІЕ) і бярэ ў жыцьці ейным чынны ўдзел. Слоў пару дзеля гэтага трэба сказаць аб тым, як сільным і высьпеўшым ужо ёсьць беларускае студэнства, каб на міжнародным грунце датрымаць поле студэнству іншых нацыяў, вякамі цэлымі і без перарыву ў жыцьці міжнародным запрацаванаму. Адказаць на гэта трэба і можна толькі каротка й адкрыта: *ёсьць яшчэ бязумоўныя недахопы.* Усе яны ў большасьці сваей маюць характар чыста тэхнічны. Духова беларускае студэнства ні ў чым ня ўступае, але ў шмат чым перавышае студэнства іншых народаў. Калі-ж дагэтуль беларускае студэнства не здабыло на міжнародным грунце большых трофэяў, то прычына гэтага ляжыць міма беларускага студэнства, калі не рахаваць ягоную рэлятыўную малалічбовасьць і так каротkую йшчэ ягоную міжнародную чыннасьць. Каб-жа ў міжнародным жыцьці на нешта ўздабыцца, на гэта патрэбна ёсьць помач „сільных сьвету гэтага", каторае беларускае студэнства дагэтуль ня мае і ўвесь цяжар мусіць вытрымаць сваімі толькі ўласнымі сіламі. З пасярод студэнства цэлага сьвету ў падобнай сытуацыі апрача Беларусаў ёсьць яшчэ толькі Украінцы — і таму наш контакт з імі і на міжнародным

полі бывае ўсюды і заўсёды найвузейшым. Крок за крокам у нашым, пасьля гэтулькіх вякоў абноўленым, міжнародным сужыцьці вылучаюцца ўсе—на пачатку ня ўнікнёныя недахопы. Гэта дае нам нязломную надзею, што ў недалёкай ужо будучыне беларускае студэнства ў жыцьці міжнародным набудзе сабе тае вагі, якая яму, па лічбовасьці Народу нашага, слушна належыць.

Урэшце, як чынны функцыянар даверанага сабе *Аддзелу Міжнародных зносінаў*, уважаю за свой абавязак пры гэтай аказіі зьвярнуць увагу ўсяго беларускага студэнства, а таксама і грамадзянства, на тую вялікую, для беларускага імя чэсную працу, якую наша студэнства, арганізаванае ў АБСА, выконывае ў міжнародным сьвеце. Ужо хоць-бы таму толькі, што ў сучасны мамэнт АБСА ёсьць адзінай беларускай арганізацыяй, маючай безпасрэдны, на правох сяброўскіх і таварыскіх абапёрты, контакт з моладзьдзю *ўсяго* сьвету, — тэй моладзьдзю, што заўтра ўжо бярэ кіраваньне справамі кожная свайго Народу. Выкарыстаць гэту рэдкую магчымасьць для дабра справы беларускай — ёсьць найбліжэйшай задачай АБСА. Дзеля гэтага аднак трэба мець вялікі запас сілы з унутраных шчыльна самкнутых радоў беларускага студэнства і помачы ўсяго сьвядомага грамадзянства, якое было, ёсьць і доўга йшчэ будзе адзінай рэзэрвай бязупынна рэгэнэруючыхся творчых сілаў.

Шмат працы выканана, але больш яе яшчэ наперадзе. Трэба пры гэтым ведаць, што сам факт прысутнасьці беларускага студэнства ў міжнародных арганізацыях яшчэ далёка ня знача, каб наша студэнства ўжо гэтым самым было пазбаўлена ўсіх сваіх непрыяцеляў. *Ніколі*!

Гэта ёсьць больш, чымся пэўнасьць. Таму ў гэтым напрамку *ніхто і ніколі ня сьмее быць „неспадзеўкай!“* Пэўнасьцю затое ёсьць, што сіла наша і ўплывы ў жыцьці міжнародным будуць заўсёды залежны ад таго, як наша студэнства само патрапіць быць сільным у сваім арганізацыйным жыцьці *ўнутраным*. Усе бо справы за міжнародным сталом рашаюцца не паводле „прыгожых вачэй“ зьехаўшыхся адусюль дэлегатаў, але паводле таго, якую сілу датычны дэлегат заступае, чым імем спаўненьня прадстаўляных вымогаў дамагаецца.

Таму першым варункам далейшых пасьпехаў беларускага студэнства ў жыцьці міжнародным ёсьць злучэньне ўсяго беларускага студэнства ў адну арганізацыю. Хто з студэнтаў—Беларусаў дагэтуль яшчэ не належа да АБСА, — хай так неадкладна зробіць сам за сябе і ўсім сваім знаёмым, бліжэйшым і далейшым, аб гэтым напомніць.

Гэтага вымагае сяньня катэгарычны наказ грамадзкай сьвядомасьці і дасьпеласьці!

---

*Падымайся зь нізін сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!*
*Занімай Беларусь, маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!*

(Маладая Беларусь, Я. Купала).

# З жыцьця беларускага студэнства на чужыне.

(Гістарычны нарыс). *)

Арганізаваны беларускі студэнскі рух на чужыне пачынаецца ў 1921 годзе ў Празе Чэскай. У гэты час дзякуючы помачы Чэскага Ўраду і дзякуючы стараньням пэўных беларускіх чыньнікаў закладаецца ў Празе Т-ва „Беларуская Грамада“, аб'ядныючая ўсё беларускае грамадзянства ў Чэхаславаччыне, і пры ёй „Беларуская Студэнская Сэкцыя“, якая гуртуе асоб каля 15 беларускіх студэнтаў.

Дзякуючы таму, што ў азначанай арганізацыі кіруючай думкай была думка незалежніцкая і што ў Бел. Студэнскай Сэкцыі аказаліся асобы, беларускасьць якіх была этнографічная, апошнія ў ліку 7 асобаў перайшлі на вясну 1922 г. у Расейскі Камітэт, што ў свой час нарабіла шмат гутарак і дало Расейцам марную надзею на ліквідацыю беларускага руху ў Празе. Тою-ж вясной 1922 г. групаю беларускіх студэнтаў была вынесена пастанова з мэтай залажэньня ідэолёгічнай беларускай арганізацыі: „Беларускі Сялянскі Саюз“, якая была ажыцьцёўлена ў восені таго-ж году. Восень 1922 году і год 1923 зьяўляюцца часам, у якім адбыўся найвялікшы наплыў беларускае акадэмічнае моладзі ў Прагу. За гэты час лік беларускіх студэнтаў у Празе даходзіць да *maximuma* — каля 150 асоб. Найбольш інтэнсыўны студэнскі рух пачынаецца з 1922—23 школьнага году. Восеньню 1922 г. пачынае сваё істнаваньне на Праскім грунце другая ідэолёгічная беларуская студэнская арганізацыя, гэта „Партыя беларускіх эс-эраў“.

Усё беларускае студэнства, бяз розьніцы палітычных пераканаьняў, гуртуецца ў адзінай фаховай студэнскай арганізацыі—ў „Студэнскай Сэкцыі пры Беларускай Радзе ў Празе“. Групаю ініцыятараў закладаецца гімнастычнае Т-ва „Беларускі Сокал“, які, як у прэсе так і сярод беларускага студэнства, вядзе беларускую нацыянальную акцыю. З ініцыятывы кругоў „Беларускага Сялянскага Саюзу“ арганізуецца Т-ва „Беларускі Студэнт“, якое і выдае сваю літаграфаваную часопісь пад тою-ж назваю (усяго ў ліку 7—8 нумароў). Пазьней Т-ва „Беларускі Студэнт“ прылучаецца да Віленскага Студэнскага Саюзу, які пачынае выдаваць „Студэнскую Думку“.

У хуткім часе, бо ў 1923 годзе, пачынаюцца, так характэрныя ў беларускім руху, сваркі на ўлоньні Студэнскае Сэкцыі паміж паасобнымі асобамі, маючымі той ці іншы ўплыў у студэнскай гушчы. Гэтыя нязгоды, характару найбольш асабістага, даводзяць да падзелу „Студэнскае Сэкцыі“ на дзьве амаль роўныя па ліку арганізацыі, а іменна: 1) „Студэнская Сэкцыя пры Беларускай Грамадзе ў Празе“, гдзе пераважаюць чыньнікі нацыянальнага характару, 2) „Аб'яднаньне Беларускага Паступовага Студэнства“, якога склад вельмі

---

*) Гэтым артыкулам раблю першую спробу фіксацыі падзей у „беларускай“ Празе. Будучы цалком сьвядомы таго, што артыкул не выстарчаючы, абхопліваючы беларускае жыцьцё ў Празе толькі павярхоуна, горача заклікаю беларускіх літэратурных працаунікоу — „пражакоу“ распрацаваць гэтае пытаньне дэтальна і цалком безстаронна. — В. Лаускі.

стракаты, бо яно аб'еднывае людзей ад беларускіх незалежнікаў аж да камуністаў і нават „людей единой русской культуры“. Дзякуючы аднак рашучаму кіраўніцтву „Аб'яднаньня“, якое складаецца з шчырых беларускіх незалежніцкіх элемэнтаў, яно пачынае выдаваць другую студэнскую часопісь у Празе пад назваю „Перавясла“ (выйшла нумароў 5—6). Гэтым актам падзелу пачалася акцыя дыфэрэнцыяцыі беларускага студэнства ў Празе. У Беларускай Студэнскай Сэкцыі адбываецца новы падзел, на грунце асабістых антыпатыяў да пэўных кіруючых кругоў Сэкцыі; аддзяліўшаяся частка існуе—спачатку таксама як „Студэнская Сэкцыя пры Беларускай Грамадзе“, пазьней—як „Беларуская Студэнская Сэкцыя паступовае думкі“, аднак існуе нядоўга, з прычыны пераходу большасьці да групы марксыстаў.

„Аб'яднаньне Бел. Паступовага Студэнства“ таксама рассыпаецца на некалькі групак. Частка, напрамку крайне левага, творыць „групу марксыстаў“, якая пазьней робіцца „Саюзам студэнтаў грамадзян БССР“. Гэтая група ў часы свайго найбольшага размаху аб'еднывала 30—35 асоб; частка-ж, у ліку некалькі асоб, уступае ў т. зв. „Единство русской культуры“ пад назовою „бѣлоруссов“—і такім чынам становіцца на грунт яўна варожы да незалежнасьці Беларусі. Часткаю студэнства арганізуецца ў соцыялістычнае т-ва „Вольная Грамада“.

З ініцыятывы незалежніцкіх кругоў беларускае студэнскае моладзі творыцца „Т-ва помачы беларускай школе“, якое разьвівае шырокую акцыю сярод беларускага студэнства на гэтым грунце і памагае грашовымі часткамі беларускім гімназіям у Заходняй Беларусі.

Бачучы страшэнную распыленнасьць беларускага студэнства, найбольш сьвядомыя элемэнты з усіх студэнскіх арганізацыяў (апрача марксыстаў) прыходзяць да перакананьня неадкладнай патрэбы стварэньня адзінае студэнскае апалітычнае арганізацыі, бяручы пад увагу і студэнста ў краі. Пасьля шматлікіх і доўгіх перагавораў кіраўнічых органаў паасобных арганізацыяў, на І-ым зьезьдзе абсалютна ўсё студэнства эміграцыі і Заходняе Беларусі (праз заступніцтва ўпаўнаважанымі прадстаўнікамі з Прагі) чынам сваіх дэлегатаў творыць 20 жніўня 1924 году цэнтралю беларускага студэнства эміграцыі і Заходняе Беларусі — „Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў“. — Гэта быў вельмі важны акт консолідацыі беларускага студэнства. Прадстаўнікі камуністычнага студэнства папрабавалі пашкодзіць гэтай консолідацыі — праз наданьне ёй характару палітычнае арганізацыі ў кірунку Радаў, але будучы рашуча адкінуты з'ездам— пакінулі яго.

Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў (АБСА) разьвівае шырокую акцыю перадусім на полі міжнародавых зносінаў са студэнствам усяго сьвету, у выніку чаго 26 жніўня 1926 году аднагалосна прымаецца сябрам Міжнародавае Студэнскае Конфэдэрацыі (CIE); да кожнага зьезду Міжнародавае Студэнскае Конфэдэрацыі выдае інфармацыйны бюлетэнь у францускай мове.

Другім вельмі важным фактам консолідацыі беларускага студэнства ў Празе (апрача камуністычнага) была консолідацыя на полі культурным—праз утварэньне „Беларускага (Крывіцкага) Культур-

нага Т-ва ім д-ра Ф. Скарыны". Гэтая арганізацыя і да сягоньняшняга дня вядзе актыўную працу на полі культурным. Галоўным чынам гэтая праца выяўляецца ў рэфэратных зборках Т-ва.

У свой час беларускае студэнства брала чынны ўдзел у Усеславянскім Студэнскім Зьезьдзе ў Празе ў 1922 г., які з прычыны варожых адносінаў Расейцаў і Палякаў да Украіцаў і Беларусаў і Югаславянаў да Баўгар — належных вынікаў ня прынёс.

Беларускі Сялянскі Саюз браў чынны ўдзел у зьезьдзе Славянскае Аграрнае Моладзі ў Любляне ў 1924 годзе.

У 1925 годзе беларускае студэнства цераз сваіх прадстаўнікоў прыймала таксама ўдзел у г. зв. „Бэрлінскай Нарадзе". Прадстаўнікі беларускага студэнства (апрача камуністаў) катэгарычна і рашуча паставіліся проці спэкуляцыі беларускаю справаю пэўных асоб і дэмонстратыўна пакінулі „Нараду". Пазьней, на агульным сходзе беларускага студэнства (згуртаванага ў АБСА) у Празе, адпаведнай рэзалюцыяй было аднагалосна ўхвалена становішча дэлегатаў студэнства ў Бэрліне і зганблена палітычная спэкуляцыя „бывших людей".

Беларускае студэнства незалежніцкага кірунку прымала актыўны ўдзел, як поўнапраўны сябра, у „Аб'яднаньні Студэнскіх Арганізацыяў Народаў Усходу Эўропы", куды ўваходзілі студэнскія арганізацыі ўсіх народаў быўшае Расейскае Імпэрыі (апрача маскалёў).

Натуральна, што дыфэрэнцыяцыя беларускага студэнства ў свой час адпаведна адбілася і на беларускай грамадзкай арганізацыі: „Беларускай Грамадзе ў ЧСР",—дзякуючы таму, што падаўляючую большасьць азначанае арганізацыі складалі студэнты. Вынікам сварак паміж студэнствам, а асабліва паміж „старэйшым грамадзянствам" было тое, што ў 1924 г., пасьля вельмі бурных зборак, занікла „Беларуская Грамада".

На яе мейсца прыйшла „Беларуская рада ў Празе", якая аб'яднывае старэйшае беларускае грамадзянства і частку студэнтаў. Пасьля „Бэрлінскай Нарады" была няўдалая спроба захапіць „Беларускую Раду" камуністамі, дзеля чаго ўсе зьменатычнікі былі з „Рады" проста выкінуты.

Сягоньня істнуюць у Празе наступныя студэнскія арганізацыі:

1) Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў (АБСА),
2) Студэнскі Гурток пры Беларускай Радзе ў Празе,
3) Беларускае (Крывіцкае) Культурнае Т-ва ім. д-ра Ф. Скарыны,
4) Беларускі Сялянскі Саюз,
5) Т-ва „Вольная Грамада" (эс-эры),
6) Беларуская Студэнская Сэкцыя пры Камітэце дапамогі, якая аб'яднывае ўсіх студэнтаў Беларусаў—стыпэндыянтаў Чэхаславацкага Ўраду,
7) Саюз Студэнтаў грамадзян БССР.

З працы заніклых ужо студэнскіх арганізацыяў на асаблівую ўвагу заслугоўваюць самадапамаговая акцыя былое Студэнскае Сэкцыі пры Беларускай Грамадзе, Беларускага Сокала і Беларускае Рады. Гэтыя арганізацыі ў той час, калі шмат беларускіх студэнтаў сядзела

па паўгода бяз ніякае дапамогі, усімі спосабамі стараліся дапамагчы ім ці то грашмі, ці то абедамі ў Украінскай сталовай, у Студэнскім Доме, у „Чэскім Сэрцы". Усё, што магчыма было зрабіць у гэтым кірунку, было зроблена. І сьвядомую няпраўду кажа п. Жылуновіч (ці той, хто яго гэтак інфармаваў) у сваіх уражаньнях у „Савецкай Беларусі", калі кажа, што „правае" беларускае студэнства тэрарызавала студэнства камуністычнае адабраньнем стыпэндыі, ці таму падобнымі рэчамі. Сьведкаю мне ў гэтым служаць Архівы б. Студэнскае Сэкцыі і Беларускага Сокала. Ды й самі сябры камуністычнае грамады, калі яны чэсныя людзі, мусяць сказаць, што „правае" студэнства ні ад каго стыпэндыі й ня думала адбіраць, а наадварот — ня пытаючыся ў патрабуючага студэнства, якія ў яго погляды, — усімі сіламі і як магло памагала. Калі будзе трэба, дам факты.

І йзноў сьвядомую няпраўду кажа п. Жылуновіч у тым-жа артыкуле, калі кажа, што „правае" беларускае студэнства ў Празе нічога пазытыўнага не зрабіла.

Яно зрабіла ўжо і робіць цяпер вельмі шмат пазытыўнага. Дапускаю, што ў другіх матэрыяльных варунках яно зрабіла-б шмат і шмат больш. Але — ці ведае п. Жылуновіч, што ўсё, што рабілася ў „правага" беларускага студэнства,—рабілася за няшчасныя грошы са стыпэндыі, дзякуючы толькі ахвярнасьці сяброў?! А ці ведае п. Жылуновіч, што „правае" беларускае студэнства не абедала ў канцы месяца — а на беларускую справу грошы давала?! Я цьвёрда перакананы, што п. п. Жылуновічы на нашым мейсцы і ў нашых варунках зрабілі-б шмат менш, бо я бачу „пазытыўную" працу п. п. Жылуновічаў і „Т-ваў Культурнае Сувязі з Заграніцаю", якія маюць за сабою дзяржаўную касу. Маленькі прыклад: скажэце, п. Жылуновіч, калі і дзякуючы чыйму крыку надаслалі беларускія выданьні ў Праскі Унівэрсытэт?

Так, усё, што толькі было можна зрабіць і што толькі было ў людзкіх сілах „правага" беларускага студэнства, — усё было зроблена і робіцца. Найлепшы наш судзьдзя будзе гісторыя.

Апошнія гады прыносяць нам зьмяншэньне нашае калёніі ў Празе. Беларускія студэнты набыўшы вышэйшую асьвету пакідаюць Прагу і вяртаюцца туды, дзе яны больш патрэбны, — на Бацькаўшчыну. Яшчэ цераз год-два і рэшта беларускага студэнства пакіне Прагу і вернецца ў родны Народ. Трэба, каб так цяжка здабытыя беларускім студэнствам рэзультаты яго працы не прапалі дарма. Трэба ўвесь цэнтр цяжару працы перэнясьці памалу ў край. Няхай-жа беларускае студэнства і грамадзянства ў краі прызадумаецца аб магчымасьцях гэтага пераносу.

Канчаючы гэты кароткі агляд жыцьця беларускага студэнства ў Празе, не магу ня ўспомніць знаёмае кожнаму беларускаму студэнту сям'і гр. Вяршыніных. Першая дарога кожнага беларускага студэнта прыехаўшага ў Прагу была ў кватэру гэтае сям'і. Шаноўная пані Вяршыніна з чыста мацярынскаю ласкаю спаткала кожнага з нас. Я быў сам сьведкаю, калі гэтая шляхотная кабеціна плакала над цяжкім жыцьцём беларускіх студэнтаў, — як матка плача над няшчасьцем роднага дзіцяці. Захавайма-ж, сябры, мілы і ўдзячны ўспамін на заўсёды аб гэтай сям'і!

*В. Лаўскі.*

*ФР. ГРЫШКЕВІЧ.*

# ДУМКІ.

Усяк бывае ў студэнскім жыцьці... Здараюцца дні, тыдні й месяцы, калі з раскошаю сядзіш над старaславянскаю граматыкаю, або грызеш індыйскія філёзофічныя сыстэмы Міманса, Вэданта і інш., чуеш і разумееш, што гэтак трэба, так быць мусіць... Так бывае часта і сам цешышся сабою, і, здаецца, кахаеш самога сябе моцна, моцна. Мінае месяц, другі, а нават, часта, трэці і так забыўшыся аб усім, забыўшыся аб назове і даце дня, — жывеш нечым даўным і далёкім, а так мілым і блізкім.—Ці-ж могуць і чым могуць цікавіць думкі Індыйцаў з часу тысячы гадоў прад Хрыстом? Ці-ж мала перадумана пасьля іх, ці-ж мала зроджана новага і цікавейшага? Аднак, калі возьмеш прад вочы мніха — філёзафа Санкару, нейкая таёмная сіла цягне да яго. Можа толькі таму, што ён жыў прад 3000 гадамі, якія робяць на чалавека непераможанае ўражаньне. І калі, апрача ўсяго, абавязак студэнта-філёзафа змушае заглянуць да ягонае працы, то пры першым слове пералятаеш у ягоны час і разам з ім паўтараеш: „што ёсьць — ёсьць Брама, а тое, чым ня ёсьць Брама, ёсьць нічым“. Так праходзяць дні...

То зноў часам спужаешся сябе самога і кінеш працу, і божышся самому сабе, што „зашмат філёзофуеш“, зашмат „губіш дарэмна“ часу, што трэба толькі „мэханічна навучыцца“.., каб здаць экзамен, а пасьля не заглянуць ужо ніколі.—„На ліха думаць?“, „яшчэ адурэць можна!“. І па такім „рацыянальным развeжаньню“ годзішся з сабою і „мэханічна“ пераходзіш да другога аддзелу.

Адчыняеш „Кіеўскія лістоўкі“, бярэш граматыку старaславянскую Вэйнгардта і сьпісваеш словы паводле „у—родаў“, „о—родаў“ і „а—родаў“; цешышся, што гэта праца ўжо „мэханічная“, „для экзамену патрэбна“. Здаецца, крышачку сталася лягчэй, „меней філёзофіі“ і больш „рацыі“, а пры гэтым разуменьне працы, падобнае да найма работы, нечага „позытыўнага“ робіцца больш і больш блізкім і ацэненым.

Так праходзіць тыдзень і месяц...

Раптам нешта, як нажом па горле, запчэміць, апіража і зацісьне; кідаеш кнігу, як нешта абрыдлае і нягоднае... Думку парывае нейкая бурлівая хваля і нясе яе чым далей ад кнігі і надыходзіць знаная ўжо добра „студэнская хвіліна“. „Зарэж — вучыцца немагчыма“. Што робіцца, што дзеецца? Дзе сіла, якая магла-б перамагчы гэтую „хвіліну?“ Скажуць—гэта гультайства, абломаўшчына. Скажуць: нямецкі студэнт гэткіх „хвілін“ ня знае і не патрабуе, гэта славянская духовая анармальнасьць. Пардон! Знаюць яе ўсе студэнты сьвету, знаюць яе ад залажэньня першага ўнівэрсытэту і будуць яе знаць да разбураньня апошняга. Тут няма вынятқаў, гэта адзінае правіла бяз іх. Пісаліся анкеты—адказы былі аднолькавы. Пачынаючы кляштoрную школаю, а канчаючы амэрыканскім „унівэрсытэтам“ — усюды гэты закон.

— Аб чым думаеце, калега, чаго сумуеце, чаму ня вучыцеся?

Заўсёды пачуеш адзіны адказ:

— Ліха яго ведае, што гэта сталася; ужо трэці дзень не магу вучыцца, думкі мучаюць...

Гэтае глыбокае „думкі мучаюць“ знае кожны студэнт. Нямілым робішся для ўсіх і сам іх усіх ненавідзіш. Заўсёды злы і кіслы, як воцат, заўсёды адзінокі бадзяешся і бадзяешся...

Мінае дзень і другі... Думкі мучаюць...

Думаецца і думаецца...

— Дакуль гэта ў беларускіх газэтах і літэратуры будуць пісаць, што славянскі апостал Кірыл стварыў і пісаў „кірыліцаю“?—Чаму працы Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў Менску выдаюць парасейску? — Чаму Беларускае Навуковае Таварыства не выдае, хаця-б у год адзін раз, свае часопісі? Чаму аб ім мала хто чуе, калі аб украінскім, славацкім і сербалужыцкім усюды чытаць можамо? Чаму нашыя школьныя падручнікі выдаюцца паводле пераржытае сыстэмы, калі мы ўжо ў Вільні маемо людзёў, якія добра знаюць пэдагогічны мэтад школы нашых дзён? Чаму гэта ўсё так робіцца? Чыя тут віна?

Думаецца і думаецца...

— Чаму ў нас што асоба з сярэдняю, ці вышэйшаю асьветаю — то ўжо асобная палітычная партыя? Чаму спосаб партыйнага змаганьня ў нас ёсьць такім брудным і нялюдзкім? — Чаму ў нас няма камітэту апекі над магіламі памёршых Апосталаў нашага Адраджэньня? Мільён залатых рублёў таму, хто сягоньня знайдзе магілу Алеся Гаруна! — Чаму ў Краі няма камітэту помачы беларускім студэнтам на эміграцыі, калі ведама добра ўсім, што яны гінуць ад сухотаў, як мухі? — Ніхто аб гэтым ня думае, нікому не баліць гэта. Чыя тут віна? Хто тут вінен? Ціха... Няма адказу, бо няма згоды!

Думаецца і думаецца...

Весялее ў вачах, прачынаешся з задумы, канец сну й мукі — „студэнская хвіліна“ праходзіць.—Кідаеш сырыя і дымныя вуліцы, прашчаешся з бліскучымі вітрынамі і прэшся каб спаткацца з некім з жывых людзёў.—Вяртаешся зной у час дамоў, бярэш кнігу і цалуеш яе. Зноў філязофія, зной старaславянская граматыка і гісторыя літэратураў... Чуеш, што сябе зноў кахаеш і кахаеш старыя „еры“ і „тітлы“, усё гэта робіцца мілым і блізкім.

Забываешся „мэханічнага“ для экзаміну і пачынаецца мілая філязофія...

А думкі зноў чакаюць свае чаргі, зноў ідуць на спатканьне...

Прага, Сьнежань, 1927.

# Песьні.

Дзікі посьвіст віхуры
Не запудзіць нас браты,
Грае сонейка ў бары
Пералівам залатым.
Калі сэрца хоча жыць,
Думкі рвуцца у прастор,
Калі весяла зьвініць
Струн юнацкіх перабор, —
Стрымгалоў ляту тады
Ў вір жыцьця кашмарны—я,
Я з запалам маладым,
Я іду на сустрач дня.
Спатыкай мяне вясна —
Залацісты родны край,
Табе сэрца нясу я,
Табе песьні — спатыкай!
Гарацць зоры ў небе цёмным,
Пералівамі гарацць,
Душу вабіць блеск таёмны
Песьні вольныя снавацць,
Як жыцьця праходзяць хвілі —
Нібы нейкі дзіўны сон,
Як зьнікае вобраз мілы
Пышных дзён, юнацкіх дзён...
Як забітых горам сяньня
Стогн братоў маіх чувацць,
Кінуць іскру ім змаганьня...
Долю ўласную кавацць.
Песьні, песьні, сэрца дзеці,
Думак волі і жыцьця,
Дакранецеся-ж — ляцеця —
Вы сьвятога пачуцьця
Тых, — чый сум мне ў сэрца [звоніць,
Узмацняе ў барацьбе.
Беларусь! слухай... гамоняць...
Йдзе змаганьне за цябе!

* * *

# Вячэрняю парою

Дрэмлюць люстраныя воды,
Месяц лье сіньню на бор,
Ў возеры цёмным схавана
Тайна глыбокая зор.

Гібкі чарот над вадою
Нізка схіляе свой стан,
Ціха вакол — так цудоўна...
Сьцелецца белы туман.

Сьпяць векавечныя хвоі,
Бор па-над возерам сьпіць;
Дзіка жалосьлівым тонам
Дзесьць ледзь сава пракрычыць.

Духаў нявідзімых ночы
Чуецца дзіўны напеў,
Баль па дню пышны спраўля- [юць,
Дню — што патух, дагарэў.

Гэтай хвілінай упою
Пьець асалоду душа,
Сэрца ў грудзёх замірая,
З сэрцам гамоніць ціша.

Ў хвалях агністых імкненьняў
Думкі плывуць чарадой;
Як не кахаці цябе мне,
Ноч Беларусі сьвятой!—

Ціхага шчасьця ўспаміны;
Дзён, што так пышна цьвілі. .
Ласкі — пяшчоты дзяўчыны
Ў сэрцы навек аджылі...

М. Васілёк.

# Мае Браты.

Мае Браты — усе ад ральлі,
Уся грамада маей зямлі,
Усе, што да роўнасьці і знаньня
Імкнуцца моцнаю рукой,
Усе, ў кім шчырае каханьне
Айчыны нашай дарагой,
Усе, хто ня губляе мэту
І чуе голас хараства,
Усе, хто хоча даць асьвету,

Усе, у кім душа жыва,
Усе моцныя, ўсе маладыя,
Надзеі поўныя і сіл,
Хто думкі ня згубіў сьвятыя,
Свае ідэі ня згубіў,
Хто моцна сэрцам адчувае,
Як я кахаю і малюсь,
Хто хоча любасьці і раю,—
Ўся маладая Беларусь!

* * *

# Беларусь

Яна—я віджу тое, веру,
Жывець ня толькі ў нашых снох,
Бо крыўды ўжо спаўнілі чару:
Яна паўстала ў мужыкох!

І тыя зоркі распаліліcь
Пажарам ў тысячы сарцох,
Якія вераю забіліcь—
Жывою праўдай ў мужыкох!

Паўстала яснаю, сьвятлянай,
Ляціць над сьпяшчаю зямлёй
І сыплець кветкі на курганы,
Кідае зоркі прад сабой.

Брата я ў кожным адчуваю,
Бо тое-ж чуе ён, што я,
І ўжо цяпер напэўна знаю:
Ўваскросьне Беларусь мая!

І тыя дыямэнты—зоры,—
Яны каханьне ў сэрца льюць,
Таму баліць айчыны гора,
Ў чыёй яны душы жывуць;

Бо то ня згадка, то ня мрыя,
Шалёных фантазёраў плён:
Так думкі кажуць нам жывыя
Няўхільнай вечнасьці закон!

**Г. Вялецкі.**

---

*Паважаным Чытачам і ўсім Грамадзянам, злажыўшым ахвяры ў грашах па падпісных лістах ці ў іншы спосаб — на выдавецкі фонд „Студэнскае Думкі“, — Беларускаму Інстытуту Гаспадаркі і Культуры за матэрыяльную помач для нашага выдавецтва, Беларускай Друкарні Ім. Фр. Скарыны за палёгкі аказаныя ў друкаваньні „Ст. Думкі“, а такжа ўсім нашым Супрацоўнікам — на гэтым месцы* **шчырую падзяку** *складае* **Рэдакцыя.**

**P. S.** *Падробную справаздачу з атрыманых ад Ахвярадаўцаў грашэй памагчымасьці падамо ў насshупным нумары „Ст. Думкі“.*

---

# Адозва старшыні Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяй.

## *Дарагія Калегі!*

Беларускае студэнства жыве і працуе.

Доказ гэтага ўзнаўленьне н а ш а е часопісі „Студэнская Думка"; доказ гэтага ўпартая і мазольная праца беларускага студэнства на полі самаарганізацыі; доказ гэтага аб'яднаньне беларускага студэнства на эміграцыі і Заходняй Беларусі ў адзіную беларускую студэнскую цэнтральную арганізацыю АБСА.; доказ гэтага ўрэшце ўпартая і даючая ўжо належныя вынікі працы беларускага студэнства на міжнародавым грунце.

26 жніўня 1926 году ў Празе Чэскай студэнства народаў усяго сьвету, актам прыняцьця беларускага студэнства ў міжнародавую студэнскую сямью, аднагалосна прызнала беларускае студэнства за студэнства зусім а с о б н а е нацыі і гэтым палажыла канец усім бязглуздым выпадкам нашых адвечных ворагаў. Настаў нарэшце час , калі й мы Беларусы можам „людзьмі звацца".

Студэнства—гэта краса, надзея, будучыня кожнае нацыі, гэта сьвежы і малады, поўны энэргіі і сілы кадр новых павадыроў свайго народу.—Мой гарачы заклік да беларускага студэнства: апраўдайма да іоты гэты назоў!

Лёс Беларускага Народу нам дыктуе, каб мы былі ня толькі студэнтамі - фахоўцамі, але й сьвядомымі грамадзянамі. На нас ляжыць уся паўната працы ня толькі студэнска-фаховае, але таксама працы культурна-адраджэнскае, працы нацыянальна вызвальнае.

Дарагія калегі! Няхай-жа кожны з Вас у імя незалежнасьці дарагое Бацькаўшчыны, у імя дабра роднага Беларускага Народу аддасьць усе свае маладыя сілы на аўтар Бацькаўшчыны!

Няхай кожны з Вас прычыніцца да таго, каб раз'едзеная партыйным антаганізмам беларуская інтэлігенцыя навучылася знайсьці ў патрэбныя мамэнты „modus vivendi" на нацыянальным грунце!

Да цяжкае, але ўдзячнае працы на полі культурна-адраджэнскім, па полі нацыянальным — усе як адзін!

Наша неабходнае заданьне нятолькі замацаваць тое, што мы ўжо змаглі здабыць, але з кожным днём, з кожнаю гадзінаю здабываць новыя трафэі; паставіць беларускае пытаньне перад сьветам, як чарговае пытаньне дня Мы павінны паказаць сьвету, што Беларускі Народ жыве, што Ён здольны жыць — як і кожны іншы, — што Ён мае права на гэтае жыцьцё.

Яшчэ раз горача клічу: Да працы!

Ut Omnes unum sint!

Шчыра й горача вітаю ўсіх!

*Вячаслаў Лаускі*
Старшыня Аб'яднаньня Беларускіх
Студэнскіх Арганізацыяў.

Прага, 2 студня 1928 г.

# ХРОНІКА.

**— З жыцьця Беларускага Студэнскага Саюзу.** — 20.XI. 27 г. адбыўся агульны сход студэнтаў. Выбраны новы Ўрад Саюзу і Рэвізыйная Камісія. Склад Ураду: Старшыня — Т. Куніцкі, Віцэ-старшыня — І. Гоголінскі, Сэкратар — Ст. Станкевіч, Скарбнік — М. Амэльяновіч, вольны сябра — Я. Ермаковіч; заступнікі: Эдв. Крэчка, А. Бартуль. Склад Рэвіз. Камісіі: А. Зянюк, М. Астроўская і Я. Шутовіч. На сходзе былі вынесены пастановы: 1) злажыць падзяку праф. Владычку за апеку над Бел. Студ. С. і прасіць Яго застацца апякуном і на далейшы час; 2) зьвярнуцца да беларускіх гмінных і інш. самаўрадаў з просьбай аб матэрыяльную дапамогу для бел. студэнтаў; 3) зацьверджана пастанова папярэдняга Ўраду аб уваходзе Бел. Ст. С. у склад сяброў АБСА; 4) выражана пажаданьне, каб бел. паліт. партыі йшлі на выбары ў Сойм і Сэнат аб'яднаным фронтам.

— 30.XI м. г. скончыў Віленскі Ўнівэрсытэт з тытулам доктара мэд. унів. гр. М. Марцінчык — сябра Б. С. С.

— 16.XII м. г. на Віл. Унівэрсытэце дасталі абсолюторыюм: Б. Грабінскі, Я. Жук і А. Пятроўскі—студэнты мэдыцыны і сябры Б.С.С.

— 17.XII м. г. на паседжаньні Ўраду Б. С. С. было пастаноўлена: даручыць кіраўніцтва выдавецтвам „Студ. Думкі" і арганізаваньне Рэд. Калегіі — кал. Я. Шутовічу.

— 20. XII. 27 г. арганізавана Рэдакц. Калегія „Студ. Думкі"—у складзе: І. Гоголінскі (ёнжа атказны рэдактар і выдавец), А. Бартуль, М. Тулейка, Г. Вялецкі і Я. Шутовіч.

— Лекцыі ў Бел. Ст. С. ад пачатку акадэмічнага 1927—28 году былі прачытаны: 13. XI. 1927 г. кал. А. Зянюком на тэму: „Новая Зямля" Якуба Коласа, 11. XII м. г. імжа—на тэму: „Асадніцтва ў Беларусі"; 4. XII. 1927 г. кал. М. Шавялянкай — на тэму: „Праблемы русыфікацыі пад Польшчай і Беларусы"; 15. I 28 г. гр. М. Косьцевічам — на тэму: „Трагэдыя беларускае інтэлігенцыі", 2 II. 28 г. імжа — на тэму: „Усебеларускі Зьезд 1917 г."; 22. I. 28 г. кал. Ул. Шыраном — на тэму: „Газавая і бактэрыёлёгічная вайна ў сьвятле мінуўшчыны і будучыні"; 29. I. 28 г. гр. Мамонькам — на тэму: „Разьвіцьцё беларускага руху ад 1917 г. да апошніх гадоў".

Трэба зазначыць, што аўдыторыя на лекцыях заўсёды бывае перапоўнена. Над арганізаваньнем рэфэратаў і запрашаньнем лектароў працуе кал. І. Гоголінскі і інш.

— Спэктаклі - вечарыны, арганізаваныя Б. С. С., адбыліся з вялікім пасьпехам: 22. I. 28 г. з праграмай: „На Вёсцы" — ідылічны абразок у 2-х часьцяхФр. Аляхновіча — і „Мядзьведзь", кам. у I акт. Чэхава; 5. II. — з праграмай: „Цені", драма ў 3-х акт. Фр. Аляхновіча.

Тэатральнай галінай дзейнасьці Б. С. С. умела кіруе кал. М. Амэльяновіч, якога артыстычная ігра на сцэне, а такжа энэргічная праца ў арганізаваньні спэктакляў зварачвае ўсіх увагу. У тэатральнай дзейнасьці памагаюць яму і інш. сябры Б. С. С., а такжа некаторыя б. б. артысты Бел. Нар. Тэатру.

— 22. I. 28 г. адбыўся на Віл. Унівэрсытэце ўрачысты акт іматрыкуляцыі; з пасярод іматрыкуляваных ёсьць каля 10 асоб — сяброў Б. С. С.

— **З жыцьця АБСА.** — 1924 году адбыўся арганізацыйны зьезд прадстаўнікоў паасобных Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў, які паклікаў да жыцьця Цэнтралю беларускага студэнства Заходняе Беларусі і эміграцыі АБСА пад кіраўніцтвам часовага прэзыдыуму ў складзе:

Вінцук Грышкевіч — старшыня, Гузоўскі Міхась, Каберац Міхась, Манастырскі Мікола і Яноўскі Кірыл — сябры прэзыдыуму.

— У 1925 годзе, падчас VII зьезду Міжнародавае Студэнскае Канфэдэрацыі (CIE) ў Варшаве, на якім АБСА было заступлена сваім дэлегатам Ул. Жылкаю, была зроблена спроба ўступу АБСА ў CIE, але бяз рэзультату.

— 15 траўня 1926 году Чэская ўлада афіцыяльна пацьвердзіла статут, а тым і права на самую шырокую працу ў рамках студэнскае арганізацыі Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў.

— 1926 г. адбыўся II зьезд АБСА (уставадаўчы), які паклікаў да кіраўніцтва арганізацыі асобы: Гузоўскі Міхась — старшыня, Лаўскі Вячаслаў — віцэ-старшыня і кіраўнік аддзелу міжнародавых зносін, Каберац Міхась — скарбнік, Русак Васіль — вольны сябра і Чарнецкі Мікола — сэкратар.

— 18—30 жніўня 1926 г. адбыўся VIII зьезд Міжнародавае Студэнскае Канфэдэрацыі (CIE) ў Празе Чэскай, на якім АБСА аднагалосна было прынята сябрам азначанае Канфэдэрацыі, пры адсутнасьці на салі паседжаньняў дэлегацыяў: Польскай, Баўгарскай, Югаславянскай і Расейскай.

На азначаным зьезьдзе CIE, АБСА было заступлена дэлегацыяй у складзе: В. Лаўскі, Я. Ермачэнка і П. Грыб.

Перад прыняцьцем, расейскія чарнасоценцы і беларускія зьменатычнікі злажылі кіраўніцтву Бюро Прапаганды CIE пісьменныя пратэсты, на якія ня зьвернута жаднае ўвагі.

У цягу працоўнага году, на мейсца выйшаўшых са складу прэзыдыуму АБСА М. Чарнецкага і пазьней М. Каберца былі пакліканы: М. Ільяшэвіч і Адольф Клімовіч.

— На IX зьезьдзе Міжнародавай Студэнскай Канфэдэрацыі (CIE) 24—VIII—4—IX—1927 г. у Рыме АБСА было заступлена дэлегацыяй у складзе: Адольф Клімовіч і Казімір Кулак.

— 11 лістападу 1927 г. у Празе Чэскай адбыўся III зьезд АБСА, на якім кіраўніцтва АБСА даручана асобам:

Ing.c. Вячаслаў Лаўскі — старшыня, Д-р Тамаш Грыб — віцэ-старшыня і кіраўнік прэсавага аддзелу, Ing.c. Адольф Клімовіч — кіраўнік аддзелу міжнародавых зносін, Ing c. Васіль Русак — кіраўнік эканамічнага аддзелу, студ. філ. Грышкевіч Францішак — сэкратар.

Пачынаючы ад 1925 году, да кожнага зьезьду CIE выдаваўся кіраўніцтвам АБСА бюлетэнь у францускай мове.

Пры АБСА істнуюць:

1) аддзел міжнародных зносін; 2) аддзел прэсы; 3) эканамічны аддзел і 4) сэкратарыят.

Адрасы: Tcheqoslovaque, Praha II, Venzigova 4, pro „ABSA“.

— **Прывітаньне і падзяка.** Югаславянская Каталіцкая Ліга, як рэпрэзэнтант Харвацкага каталіцкага студэнства, са свайго агульнага

зьезду ў Спліце (Югаславія) ад 22 — 24 ліпня 1927 г. выслала прадстаўнікам беларускага каталіцкага студэнства на эміграцыі ў Празе Чэскай прывітаньне, у якім паміж іншым выражаны жаль з прычыны цяжкіх варункаў жыцьця Беларускага Народу, жаль над тым, што Беларусам адабралі ворагі права хваліць Бога ў сваей мове, што Беларусы каталікі пазбаўлены гэтымiж ворагамі сваіх некаторых духоўнікаў. Прывітаньне канчаецца славамі, у якіх выражана вера і надзея ў тое, што як югаславянскае так і беларускае каталіцкае студэнства дойдзець да наймацнейшай сувязі ў змаганьні за перамогу сапраўдную Хрыстовай ідэі Справядлівасьці ў цэлым Славянстве.

Ад імя беларускага каталіцкага студэнства на эміграцыі — Фр. Грышкевіч, студ. філёзофіі, у адказ на прывітаньне ад Харвацкага каталіцкага студэнства, выслаў на адрас цэнтралі Харв. катал. студ. словы падзякі.

— **Удзел АБСА на кангрэсе Цэнтральнага Саюзу Украінскага Студэнства.** 28-га кастрычніка м. г. у Празе Чэскай адбыўся 5-ты кангрэс Цэнтр. Саюзу Укр. Студ. (CESUS).

На кангрэсе было шмат прадстаўнікоў з усіх унівэрсытэцкіх цэнтраў.

Ад імя беларускага студэнства вітаў кангрэс кал. Гузоўскі — тагачасны старшыня Аб'ядн. Бел. Студ. Арг.

— **Студэнты Беларусы прыехалі з Рыму.** Пасьля аканчэньня студыяў, атрымаўшы навуковыя тытулы дактароў, у пачатку гэтага году прыехалі з Рыму на Бацькаўшчыну беларускія студэнты-ксяндзы: К. Кулак, А. Леош і Фр. Чарняўскі.

Віленскі каталіцкі Арцыбіскуп — ведамы нацыяналіст — Паляк — з увагі на тое, што прыехаўшыя ксяндзы Беларусы не астануцца пасыўнымі ў адносінах да беларускага адраджэнскага руху — з мэтай ізаляцыі іх ад беларускай вёскі, на якой — у выпадку назначэньня іх на становішча пробашчаў, ці вікарых—мелі-б удзячнае поле працы ў галіне душпастырскай і народнай беларускай, — назначыў іх на становішчы вікарых (становішчы пробашчаў пэўнеж толькі для Палякоў!): кс. кс. Чарняўскага і Леоша—ў Вільні, кс. Кулака — ў Горадні.

— **Удзел беларускага студэнства ў „Вечарах Беларусі" ў Югаславіі.** З ініцыятывы Югаславянскага Студэнскага Гурту ў Празе Чэскай, найвялікшае славянскае культурнае т-ва „Prosvetna Zweza" ладзіць у канцы месяца лютага с. г. у найвялікшых гарадох Югаславіі „Вечары Беларусі". У праграму „Вечароў" уваходзяць: 1) Народны Беларускі Гімн; 2) рэфэрат аб Беларусі; 3) чытаньне беларускіх літэратурных твораў і 4) пяяньне беларускіх песьняў. Рэфэрат аб Беларусі мае чытаць вялікі знаўца беларускае літэратуры і шчыры наш прыяцель І. Б. Шэдів'ы, дзякуючы якому пачалася беларуская праца ў Югаславіі.

У сувязі з „Вечарамі Беларусі" т-ва „Prosvetna Zweza" запрасіла нашага маладога песьняра і студэнта філёзофіі на ўнівэрсытэце ў Празе Чэскай Фр. Грышкевіча прыбыць у месяцы лютым с. г. у Югаславію з мэтай прачытаньня ў арыгінале на „Веч. Беларусі" літэратурных твораў найвялікшых беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў.

---

Рэдактар-Выдавец: Ігнат Гоголінскі.